# Гора ад розуму

УДЗЕЛЬНІЧАЮЦЬ:

Павел Афанас’евіч Фамусаў, кіраўнік у дзяржаўнай установе.

Соф’я Паўлаўна, дачка яго.

Лізанька, служанка.

Алексей Сцепанавіч Малчалін, сакратар Фамусава, жыве ў яго ў доме.

Александр Андрэевіч Чацкі.

Палкоўнік Скалазуб, Сергей Сергеевіч.

Наталля Дзмітрыеўна, маладая дама } Горычы.
Платон Міхайлавіч, муж яе

Князь Тугаухаўскі і княгіня, жонка яго, з шасцю дочкамі.

Графіня-бабка } Хруміны.
Графіня-ўнучка

Антон Антонавіч Загарэцкі.

Бабуля Хлёстава, сваячка Фамусава.

Пан N.

Пан D.

Рэпецілаў.

Петрушка і некалькі слуг з гаворкай.

Мноства гасцей markрознага гатунку і іх лакеяў пры раз’ездзе.

Афіцыянты Фамусава.

Дзея ў Маскве ў доме Фамусава.

# ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

## *З’ЯВА 1*

Гасціная, у ёй вялікі гадзіннік; з правага боку дзверы ў Соф’іну спальню, адкуль чуваць фартэпіяна з флейтай, якія пасля сціхаюць. Лізанька пасярод пакоя спіць, звесіўшыся з крэслаў.

*(Раніца, ледзь займаецца на дзень)*

Лізанька

*(раптам прачынаецца, устае з крэслаў, азіраецца).*

Світае… Ах! чаму так ночка мала!
Учора не пусцілі спаць.
“Друг прыдзе”. - Трэба дбаць ды дбаць.
Сядзі, вартуй, пакуль далоў не ўпала.
Цяпер вось толькі задрамала,
І дзень!.. Сказаць ім, што відно. *(Стукае да Соф’і.)*
Гэй, Соф’я Паўлаўна, даўно
Зайшла гаворка ваша за нач.
Паглухлі? – Алексей Сцепаныч!
Паненка!.. – Вам няма бяды? *(Адыходзіць ад дзвярэй.)*
Ну, раптам госць незапрашаны,
Ці зойдзе пан стары сюды!
Вось і служы у панны закаханай! *(Ізноў да дзвярэй.)*
Час разысціся. Дзень. – Ага?

Голас Соф’і

Ці позні час?

Лізанька

Усе ўжо на нагах.

Соф’я *(з свайго пакоя).*

Ці позні час?

Лізанька

Сем, восем, па дзевятай.

Соф’я *(адтуль-жа).*

Няпраўда.

Лізанька *(прэч ад дзвярэй).*

Ах! амур пракляты!

Хоць чуюць – вухам не вядуць,

Што-б за ваконніцы зірнуць?

Гадзіннік падкручу, хоць потым будзе пытлю,

Прымушу заіграць. *(Лезе на крэсла, перасоўвае стрэлку, гадзіннік б’е і іграе.)*

*З’ЯВА 2*

Ліза і Фамусаў.

Ліза

Ах, васпан!

Фамусаў

Васпан, так.

Глядзі, якая ты. Да жартаў спрытна!

А я ўсё думаю, што тут за дзіўната!

То флейта чуецца, то, быццам, фартэпіяна;

Для Соф’і, мусібыць, зарана??

Ліза

Не, васпан, я… неназнарок…

Фамусаў

Якраз неназнарок, пільнуй ваш кожны крок;

Напэўне-ж хітрыкі.

Ой, зелле, балаўніца.

Ліза

Вы балаўнік, вам не да твару быццам!

Фамусаў

Дзяўчына сціплая, але

Адны гарэзу ў галаве.

Ліза

Пусціце, вы гарэзнік самі,
Апомніцеся, вы дзядок…

Фамусаў

Бадай.

Ліза

Ну, прыдзе хто, куды мы з вамі?

Фамусаў

Якая тут хада?
Паненка-ж спіць?

Ліза

Вось толькі задрамала.

Фамусаў

Цяпер! А ноч?

Ліза

Праз ноч усю чытала.

Фамусаў

Бач ты, чаму-ж так не па-людску?

Ліза

Замкнуўшыся, ўсю ноч чытае па-французску.

Фамусаў

Скажы ты ёй: не варт псаваць вачэй,
З чытання толк малы, як быццам,
Ёй ад французскіх кніг не спіцца,
А мне ад рускіх сон ямчэй.

Ліза

Скажу як толькі ўстане,
Баюся, ўзбудзіце, ідзіце лепш, мой пане.

Фамусаў

Што там будзіць? Гадзіннік настаўляеш,
На ўвесь квартал сімфонію грыміш.

Ліза

Ды кіньце-ж вы!

Фамусаў

Дай рады, як крычыш.
Ты розум маеш?

Ліза

Баюся, каб не выйшла што з таго…

Фамусаў

Чаго?

Ліза

Час ведаць, васпан, вам, вы не дзіцёнак;
Дзявочы сон пад раніцу так тонак;
Дзвярыма рыпні, шапяні:
Пачуюць…

Фамусаў

Толькі не мані.

Голас Соф’і

Эй, Ліза!

Фамусаў

Ш-ш!

Ліза

Пайшоў… Ах! далей ад паноў;
Ад іх заўжды чакай сабе няшчасця.
Няма на свеце горшае напасці,
Як панскі гнеў і панская любоў.

*З’ЯВА 3*

Ліза, Соф’я з свечкаю, за ёю Малчалін.

Соф’я

Што, Ліза, на цябе напала?
Грыміш…

Ліза

Цяпер вам ростань цяжка пераржыць?
Замкнуўшыся да дня, і ўсё здаецца мала?

Соф’я

Ах, сапраўды ўжо дзень імжыць!..
І дзень, і сум. Малыя ночы!

Ліза

Сумуйце, калі так ахвочы.
Умлела я – сюды ваш бацюхна зайшоў –
Маніла усяляк, не помню нават слоў,
Ну, што-ж вы стаіцё? хутчэй паклон, васпане.
А мо’ на месца сэрца стане;
Гадзіннік вось, ці гляньце за акно:
Ідзе народ па вуліцах даўно;
А ў доме грук, хада, мятуць і прыбіраюць.

Соф’я

Шчаслівыя гадзін не прыкмячаюць.

Ліза

Не прыкмячайце, ўлада ў вас,
А мне даводзіцца за ўсё даваць адказ.

Соф’я (*Малчаліну*)

Ідзіце. Цэлы дзень ізноў цярпець дакуку.

Ліза

Бог з вамі; прыбярыце руку.

*З’ЯВА 4*

Соф’я, Ліза, Малчалін, Фамусаў.

Фамусаў

Што за наўда? Малчалін, гэта ты, брат?

Малчалін

Так.

Фамусаў

Навошта тут? Патрапіў як?
І ты, дачка… Дзень добры, што ты
Так рана ўстала! а? дзеля якой турботы?
І як вас бог не ў часе разам звёў?

Соф’я

Ён толькі што цяпер зайшоў.

Малчалін

З прагулкі зараз.

Фамусаў

Друг. Ці нельга для прагулак
Знайсці далейшы закавулак.
А ты, шаноўная, як толькі з ложка скок,
З мужчынам! з маладым! – Для дзеўчыны занятак!
Лухты чытаеш забагата,
Вось гэта плён ад тых кніжок!
А ўсё Кузнецкі мост, і вечныя французы
Адтуль і моды ў нас, і аўтары, і музы,
Што пераводзяць нам і сэрцы і кішэнь!
Калі-ж бог дасць збавення дзень
Ад іх капелюшоў! заколак! шпілек! фіжмаў!
Ад крам бісквітных і ад кніжных!

Соф’я

Даруйце, бацюхна, йдзе галава наўкруг;
Ад перапуду я ледзь пераводжу дух.
Зрабілі ласку ўбегчы з гэткім спрытам, -
Збянтэжылася я.

Фамусаў

Ну, дзякаваць. Глядзі ты,
Я вінен: я спяшаў!

Я перашкодзіў! напужаў!
Я, Соф’я Паўлаўна, збянтэжан сам, дзень цэлы
У мітусні, як быццам ачмурэлы.
Па службе шмат турбот, ну, як іх абмінеш?
Той чэпіцца, другі, ўсім справы да мяне!
Але ці мог чакаць, каб тут маніць мне сталі?..

Соф’я

Хто, бацюхна?

Фамусаў

Яшчэ-б мяне ўпікалі,
Што ушчуваю без ладу.
Не плач, я зараз давяду:
Ці мала клопату было нам
Праз выхаванне! ад пялёнак!
Памерла маці: бабку я наняў,
Другую маці проста адшукаў:
Мадам Раз’е глядзець цябе паставіў;
Разумная, цудоўных абычаяў.
Адно не ў гонар, трэ’ сказаць:
За нейкіх лішніх соцень пяць
Перамануць сябе да іншых дапусціла.
Ды не ў мадаме сіла,
Нашто далёка прыкладу шукаць,
Як можна прыклад з бацькі ўзяць.
Зірні ты на мяне: няхай не надта стройны,
Аднак бадзёр, вясёл, хоць сівы волас мой,
Свабодны, удавец і пан сам над сабой,
І, як манах, трымаюся дастойна.

Ліза

Адважуся, васпан…

Фамусаў

Маўчаць!
Жахлівы век! Не знаеш, як пачаць!
Не па гадах разумны свет стаў.
А дочкі горш за ўсіх, бо самі дзівакі,
Даліся мовы ў знакі!
Бяром-жа валацуг, і ў дом, і па білетах,
Каб прывучаць дачок патрохі да ўсяго –
Спяваць! і танцаваць! і кволіцца! і вохаць!
Нібыта ў жонкі іх рыхтуем скамарохам.
Ты просьбіт, што? Ты, пане, тут чаго?
Цябе ў сям'ю пусціў бязродным чалавекам.
Даў чын асесара, ў сакратары прыняў;
Ты служыш у Маскве цераз маю апеку;
І каб не я, ў Тверы-б ты звекаваў.

Соф'я

Не ўцямлю я, чаго вы ўгневаліся раптам.
Ён тут жыве, не вінават душой!
Ішоў – не ў тыя дзверы трапіў.

Фамусаў

Ён трапіў ці знарок зайшоў?
А разам вы чаму? Каб выпадак – не веру.

Соф'я

Я выпадак увесь вам аддаю на суд,
Калі вы з Лізаю былі нядаўна тут,
Ваш голас напужаў мяне без меры,
І ўбегла я сюды, не чуўшы ног.

Фамусаў

Глядзі, што на мяне ўсю завaруху зложыць.
Не ў часе голас мой ім нарабіў трывог!

Соф’я

Па сне благім і дробязь устрывожыць;
Сказаць вам сон, вы ўцяміце няўзнак.

Фамусаў

Што за гісторыя?

Соф’я

Вам расказаць?

Фамусаў

Ну, так.

Соф’я

Дазвольце… бачыце… Прагалак
У кветках быў; і я шукала
Траву,
Якуюсьці, цяпер не назаву.
Раптоўна мілы друг, адзін з такіх, каго мы
Пабачым – быццам век знаёмы,
З’явіўся тут са мной; даў розум яму лёс,
Ды мала смеласці – у беднасці ён рос.

Фамусаў

Ах, матухна, не давяршай удара!
Хто бедны, той табе не пара.

Соф’я

А потым знікла ўсё, і кветак больш няма. –
Мы ў цемнаце. І на канец дзівосаў
Да нас вы – з-пад падлогі проста,
Страшны, як смерць, і валасы старчма!
Тут з громам расынілі дзверы
Якіясьці не людзі і не зверы,
Нас разлучылі – й мучылі таго, што быў са мной.
Ён быццам даражэй мне лепшых скарбаў,

Я да яго – вы цягнеце з сабой.

А нас праводзіць стогн, рык, рогат, свіст пачвараў!

Ён стаў крычаць! –

Сон знікнеў. – Гутарка чуваць:

Ваш голас быў, дзіўлюся, што так рана?

Бягу сюды, гляджу, аж вы ўдваіх.

Фамусаў

Сон дрэнны, што таіць,

Усё тут ёсць, калі няма падману:

Каханне, кветкі, жахі і чарты.

Ну, пане мой, а ты?

Малчалін

Я голас ваш пачуў.

Фамусаў

Цікаўна.

Уеўся голас ім. Ды, паглядзі, як спраўна

Ён чуецца і ўсіх склікае да зары!

На голас мой спяшаў, навошта-ж? – гавары.

Малчалін

З паперамі.

Фамусаў

Так! іх мне не ставала.

Даруйце мне, ды што гэта напала

Стараннасць да пісьмовых спраў.

Ну, Сонюшка, я гэтак-бы сказаў:

Бывае дзіўна ў сне, а шмат дзіўней на яве;

Шукала ты сабе травы,

На друга набрыла па справе;

Дык выкінь глупства з галавы,

Дзе цуды, там бракуе толку –

Ідзі ты, зноў спрабуй паспаць. *(Малчаліну.)*
Хадзем паперы разглядаць.

Малчалін

Я для дакладу нёс іх толькі,
Даведак трэба шмат прыкласці, а ў другіх
Ёсць супярэчнасці, сэнс патрабуе змены.

Фамусаў

Баюся, пане мой, я аднаго страшэнна,
Каб многа не назбірваць іх,
Дай волю вам, - вы-б назбіралі жвава,
А у мяне, ці справа, ці не справа,
Я звычай маю, друг:
Што падпісаў, дык збыта з рук.

*З'ЯВА 5*

Соф'я, Ліза

Ліза

Ну, вось і свята вам! ну, вось вам і пацеха!
Аднак-жа не, цяпер нам не да смеху;
У вочах цёмна, дух мне заняло;
Грэх не бяда, - каб плётак не было.

Соф'я

Што плёткі мне? Як хочуць, хай так судзяць,
Тут з бацюхнам вялікі клопат будзе:
Сварлівы, трапяткі стары
Ён быў заўжды, а з гэтае пары…
Мяркуй сама…

Ліза

Дык я вось і мяркую:
Замкне ён вас; - калі-б са мной яшчэ;
А то, няхай нас бог ратуе,

Мяне, малчаліна, ўсіх пражане з вачэй.

Соф’я

Падумаеш, як шчасце нетрывала!
Бывае горш, міне дарма,
Калі-ж тужлівага і завідам няма,
Час плаўна йшоў, забыўшыся я йграла,
І лёс нас быццам бы сцярог,
Ані трывог, ні сумнявання…
А гора – шасць цераз парог.

Ліза

Дык вось-жа, вось, майго дурнога меркавання
Не слухаеце вы бадай.
Дык вось бяда.
Ці ж лепей напрарочаць людзі?
Казала я: дабра з любошчаў тых не будзе
Ані, вавек вякоў,
Бо тата ваш, як шмат другіх бацькоў,
Хацеў бы зяця з зоркамі, з чынамі,
Хоць зоркі не рублі, сказаўшы паміж намі,
Яшчэ хацелася яму-б,
І грошай, каб пажыць, каб на банкеты стала,
Да прыкладу палкоўнік Скалазуб:
І залаты мяшок, і лезе ў генералы.

Соф’я

Прывабны – жах! і весела мне – страх
Гаворкі чуць аб фрунце і радах;
Разумнай рэчы не сказаў ён з роду, -
Мне ўсё адно: ці за яго, ці ў воду.

Ліза

Так, гэты гаваркі, ды вельмі-ж не хіцёр;

А між вайсковых ці між стацкіх
Ці ёсць больш чулы хто, ці болей хто васцёр,
Як Александр Андрэіч Чацкі!
Не хочу ў крыўду вас сказаць;
Прайшло, не вернецца назад,
А помніцца…

Соф’я

Што помніцца? Пацешна
Ён абсмяяць усіх умеў,
Жартуе трапна, вось і смешна;
Дзяліць з усякім можна смех.

Ліза

І толькі? Быццам бы? – Слязамі абліваўся,
Я помню, бедны ён, як з вамі раставаўся.
- Што, пане, плачаце? з усмешкай трэба жыць. –
А ён адказвае: “- О, нездарма я плачу,
Як ведаць, што знайду, прыбыўшы з-за мяжы?
І колькі я, магчыма, страчу!” –
Бядак, як быццам чуў, што годы цераз тры…

Соф’я

Ты, слухай, на сябе замнога не бяры,
Магчыма лёгкадумна я зрабіла,
І знаю, й каюся; ці ж здраду дапусціла
Каму? каб дакараць нявернасцю маглі.
Так, з Чацкім, праўда, гадаваліся, раслі;
Прывычка разам быць дзень цэлы неадлучна
Дзіцячай дружбай звязвала на час,
А потым, калі дом, напэўна, надакучыў,
    Ён рэдкім госцем быў у нас;
    Пасля прыкінуўся ён зноўку закаханым,

Выможлівым і скрыўдаваным!..
Разумны, здатны да прамоў,
З адменным шчасцем ва сяброў,
Ды пра сябе стаў марыць завысока…
Ахвота вандраваць напала на яго,
Калі ж кахае хто каго,
Той розуму шукаць не будзе так далёка.

Ліза

А сам ён дзе? ў якіх краях?
Казалі, дзесьці быў на кіслых ён вадах,
Не з хворасці, з нуды – хутчэй, аб гэтым ходзіць.

Соф'я

І ён шчаслівы там, дзе смешнае знаходзіць,
Каго кахаю, не з такіх:
Малчалін, ён сябе забудзе для другіх,
Нахабства вораг, сарамяжлівы, ласкавы…
З кім можна гэтак ночы прабаўляць!
Сядзім, а за акном заняўся дзень яскравы,
Як думаеш? што робім?

Ліза

Скуль мне знаць,
Паненачка, ды ці мая ж то справа?

Соф'я

Руку да сэрца прыхіне,
Ад глыбіні душы ўздыхне,
Ні слова лішняга, і гэтак ноч праходзіць.
Рука з рукой, вачэй з мяне не зводзіць, -
Смяешся! Што за смех? Ці зачапку дала
Табе я к рогату такому!

Ліза

Мне?.. ваша цётка ў памяці ўсплыла,
Як малады фанцуз уцёк у яе з дому.
Галубачка! Хацела скрыць
Сваю гаркоту, ды не ўмела:
Забыла валасы чарніць
І цераз тыдзень пасівела.

Вось гэтак жа пасля сплятуць і пра мяне.

Ліза

Даруйце, можа, бог міне,
Хацела я, каб гэты смех дзівацкі
Вас хоць крыху падвесяліць памог.

*З'ЯВА 6*

Соф'я, Ліза, слуга, за ім Чацкі

Слуга

Пан Александр Андрэіч Чацкі.

*(Выходзіць).*

*З'ЯВА 7*

Соф'я, Ліза, Чацкі

Чацкі

Ледзь золак на нагах! і я ля вашых ног!
Ну, пацалуйце ж, не чакалі? Адкажыце!
Што ж, рады? Не? У твар хутчэй зірніце!
Вы здзіўлены? і толькі? так прыняць!
Нібыта не мінула й тыдню,
Нібыта мы на гэтых днях
Адзін другому здолелі абрыднуць.
Кахання зоць бы знак! Чаго яшчэ чакаць!
Тым часам я, гадзін за сорак пяць,
Вёрст болей за семсот прамчаўся! Вецер, бура;

Ляцеў без памяці, і вока не прыжмурыў,
І разгубіўся ўвесь, і падаў я ці раз –
І вось якая ўзнагарода!

Соф'я

Я, Чацкі, рада вам заўсёды.

Чацкі

Вы рады! ў добры час,
Аднак па шчырасці хто ж гэтак сустракае?
І мне здавацца пачынае,
Што коней і людзей змушаючы дубець,
Я толькі цешыў сам сябе.

Ліза

Вось, пане, калі б вы стаялі за дзвярамі,
Дальбог-жа, вось цяпер якраз,
Мы ўспаміналі тут пра вас,
Паненачка, скажыце самі.

Соф'я

Не толькі зараз, кожны дзень, -
Не можаце вы мне зрабіць папроку.
Абы хто ў дзверы забрыдзе
Праездам, выпадкам, з чужых краёў, здалёку –
Пытаюся, хоць госць марак:
Ці не сустрэў ён дзе ў паштовай вас карэце?

Чацкі

Ну, што-ж, хай будзе так.
Блажэн, зто веруе, цяплей таму на свеце! –
Ах, божа мой! ці мог я зноў прыждаць?
Быць у Маскве! у вас! ды як жа вас пазнаць!
Дзе гэты час? дзе той узрост нявінны,
Калі штовечар безупынна,

Мы гульні ладзілі між крэслаў і сталоў,
Вось толькі з’явімся і зразу знікнем зноў.
А тут ваш бацюхна з мадамай за пікетам,
А мы ў кутку, здаецца мне, што ў гэтым!
Вы помніце? Дрыжым, што столік зарыпеў…

Соф’я

Дзяцінства ўсё!

Чацкі

Так, а цяпер,
Ў семнаццаць год непараўнаным цветам
Вы расквітнелі, вам вядома гэта,
Вы сціплая таму, не ўздымеце вачэй.
Кахаеце каго? Прашу сказаць хутчэй,
Не думаўшы, нашто стыдацца.

Соф’я

Тут кожны б сораму зазнаў,
Каб запытанняў рой і востры зірк спаткаў…

Чацкі

Даруйце, як не з вас – з чаго-ж яшчэ здзіўляцца?
Што новага пакажа мне Масква?
Учора быў тут бал, а заўтра будзе два.
Той сватаўся – і ўзяў, а той даў промах,
І гутаркі адны, і вершыкі ў альбомах.

Соф’я

Ганенне на Маскву! Свет бачыць – не дарма!
Дзе ж лепей?

Чацкі

Там, дзе нас няма.
Ну, што ваш бацюхна? Ўсё Англійскага клоба
Датрунны член, шаноўная асоба?

А дзядзька ваш ці адскакаў свой век?
А гэты, як яго, ён турак ці то грэк?
Той чорнамазенькі, на ножках жураўліных,
Як зваць яго, не помню штось,
Куды ні ткнешся: ён тут ёсць
Ў сталовых і ў гасцiных.
А тры бульварныя сябры,
Якiя ўжо з поўвека маладзяцца?
У iх мiльён радні, і праз сваiх сястрыц
З усёй Еўропай парадняцца.
А наша сонейка? Наш клад?
На лбе напісана: тэатр і маскарад;
Лiстамі дом распiсан, кшталтам бору,
Сам тоўсты – шчуплыя акторы.
Аднойчы на балу, пацiху ад людзей,
Знайшлi мы, помнiце, ў каморчыне сакрэтнай,
За шырмай – чалавек: свiстаў, як салавей,
Спявак зiмой пагоды летняй.
А той сухотнiк, кнiжкам вораг, вам сваяк,
Ва ўчоны камітэт каторы пасялiўся
І крычма вымагаў прысяг,
Каб граматы нiхто не знаў і не вучыўся?
Мне лёс наканаваў пабачыць iх iзноў!
Абрыдне з iмi жыць, шукаць жа лепш – дарэмна,
А павандруеш, ды як вернешся дамоў,
*І дым радзiмы нам салодкi і прыемны!*

Соф’я

Вось вам бы цётухну спаткаць,
Ды ўсiх знаёмых перабраць.

Чацкі

А цётка? ўсё Мінерваю, дзяўчынай?
Ўсё фрэйлінаю Першай Кацярыны?
Сабак і выхаванак повен дом?
Ах! выхаванне ўспамянём.
А што цяпер, як даўняю парою.
Спяшаюць набіраць настаўнікаў палкі,
Паболей лікам, патанней цаною?
Хоць да навук не надта мастакі;
Ў Расіі пад вялікім штрафам
Нам кожнага лічыць даюць загад
Гісторыкам і геаграфам!
Наш ментар, помніце каўпак яго, халат,
Падпяты перст – вучонасці адзнака –
Дзіцячы розум не маглі не хваляваць.
І з даўніх пор мы звыклі вызнаваць,
Што нам без немцаў рады аніякай! –
А Гільоме, француз, вядомы ветрагон?
Жанаты, не?

Соф’я

Каму да пары ён?

Чацкі

Ну, скажам, хоць якой княгіні,
Пульхерыі Андрэўне быў бы муж.

Соф’я

Танцмайстар! Як жа так?

Чацкі

Ён кавалер. Чаму ж?
З нас будуць вымагаць маёнткаў, быць у чыне,
А Гільоме!.. – Тут зараз тон якоў?
Калі вялікі з’езд, ці людны фэст прыходскі, -

Усё пануе мешаніна моў

Французскае з ніжагародскай? –

Соф’я

Што, мешаніна моў?

Чацкі

Так, двух, без гэтага ніяк?

Ліза

А вашай з трох такіх не выкраіш аднак.

Чацкі

Мая прынамсі хоць без надзімання.
Вось дзіва! Нашае спатканне –
Яно узбуджвае настрой, -
Я гаваркі, а іншаю парой
Дурней Малчаліна бываю. А дарэчы,
Ці не набыў ён мовы чалавечай?
Я помню, сшытак з песнямі калісь
Пабачыць, чэпіцца: а мо’ б спісаць далі,
А зрэшты, пойдзе ён угору безумоўна,
Цяпер да попыт на бязмоўных.

Соф’я

Не чалавек, змяя!
Хачу спытаць у вас:
Ці не здаралася з нуды ці з весялосці,
Каб вы што добрае сказалі пра кагосьці?
Хоць не цяпер, хоць у дзіцячы час.

Чацкі

Калі ўсё мякка так? нястала і ласкава?
Навошта ж так даўно? не трэба лепшай справы:
Пад гукі звонкія званкоў
І ўдзень, і ўноч аснежанай пустыняй

Да вас спяшаю стрымгалоў.

І як знаходжу вас? У нейкім строгім чыне!

Цярплю халоднасць і не пазнаю!

І ўсё ж т'кі я да вас кахання не ўтаю, -

*(Маўчанне на хвіліну.)*

Паслухайце, ці ў словах крыўды столькі,

Каб папсаваць каму маглі жыццё?

Тады б мой розум быў не ў згодзе з пачуццём.

Я ў дзіваках з якога цуду

Раз пасмяюся, дый забуду:

Ў агонь, як на абед пайду, - скажыце толькі мне.

Соф'я

Каб жа згарэлі, а як не?

*З'ЯВА 8*

Соф'я, Ліза, Чацкі, Фамусаў

Фамусаў

Вось і другі!

Соф'я

Ах, тата, сон у руку.

*(Выходзіць.)*

Фамусаў *(ёй услед напаўголаса)*

Праклятый сон.

*З'ЯВА 9*

Фамусаў, Чацкі *(глядзіць на дзверы, у якія Соф'я выйшла).*

Фамусаў

Ну адпаліў ты штуку!

Зусім тры годы не пісаў!

І раптам, быццам з неба ўпаў.

*(Абдымаюцца.)*

Здарова, друг, здарова, брат, здарова!

Расказвай, мусібыць, гатова
Багата вестак, розных дзей?
Сядай ды абвяшчай хутчэй.

*(Сядаюць.)*

Чацкі *(няўважліва).*

Як Соф’я Паўлаўна у вас папрыгажэла!

Фамусаў

Вось маладосць! інакшых спраў не мела б,
Як прыкмячаць дзяўчыны прыгажосць;
Сказаць яна паспела штось,
А ты й пачаў узносіцца надзеяй!..

Чацкі

Ах! не, ў мой бок надзеі не глядзелі.

Фамусаў

“У руку сон” яна шапнула да мяне,
Вось ты і ўздумаў…

Чацкі

Я? ды не!

Фамусаў

Хто ёй прысніўся? што такое?

Чацкі

Я не адгадчык сноў.

Фамусаў

Не вер, браток, пустое.

Чацкі

Я веры даў сваім вачам;
Век не страчаў, падпіску дам,
Што да яе было б хоць крышачку падобна!

Фамусаў

А ён сваё. Ды раскажы мне добра,

Дзе быў ты столькі зім і лет?
Адкуль цяпер?

Чацкі

Пра гэта ўжо даволі!
Хацеў аб'ездзіць цэлы свет,
А не аб'ехаў сотай долі.

*(Хутка ўстае.)*

Даруйце; я хутчэй пабачыць вас спяшаў.
Бывайце! І дамоў яшчэ не заязджаў,
З'яўлюся, дробязі апошняй не забуду,
Вам першым, вы пасля расказвайце усюды.

*(У дзвярах.)*

Якое хараство!

*З'ЯВА 10*

Фамусаў *(адзін).*

Каторы ж з іх дваіх?
"Ах, тата, сон у руку".
І мне гаворыць гэта ўслых!
Ну, вінен. Моцна даў я круку!
Малчалін зблытаў перш, турботаю заняў.
Цяпер жа… ў полымя з агня:
Той голы, гэты франт прыгожы –
Ён пустадом, не ўмее жыць!
От жа камісія, мой божа,
Дачкі дарослай быцькам быць!

*(Выходзіць).*

*Канец першай дзеі.*

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

*З’ЯВА 1*

Фамусаў, слуга.

Фамусаў

Пятрушка, ты заўжды з абноўкай
З падзёртым рукавом. Дастань мне каляндар;
Ды не чытай, як панамар;
А з пачуццём. з развагай, з толкам.
Чакай жа. – На лістку чыркні ты алаўком
Супроць наступнае нядзелі:
К Праскоўі Фёдараўне ў дом
Мяне прасілі на фарэлі.
Глядзі, як дзіўна створан свет!
Паразважаеш, — цуд на яве;
То сцеражэшся, то абед:
Паўдня ясі, а цэлы тыдзень травіш.
Адзнач… Не там. Няхай цябе.
Ў чацвер на пахаванне клічуць.
Ох, людзі, людзі! Хто з іх лічыць,
Што кожны сам туды-ж павінен лезці,
У скрынку, дзе ні стаць, ні сесці.
Вось прыклад, калі мае хто намер,
Каб памяць па сабе пакінуць:
Нябожчык быў паважны камергер,
З ключом, і ключ дастаў для сына.
Сын грошы меў, яшчэ пасаг узяў.
Сыноў жаніў, дачок павыдаваў,
Сказаў, і ўсе аб ім з тугой успамінаюць,
Кузьма Петровіч! Мір яму!—
Што за тузы ў Маскве жывуць і паміраюць! -

Пішы ў чацвер, адно ўжо к аднаму,

А можа ў пятніцу, а можа і ў суботу,

Я мушу ва ўдавы, у доктаршы, хрысціць.

Яна ўцяжку, пішы, пішы, чаго ты?

Я разлічыў: ёй час радзіць.

*З'ЯВА 2*

Фамусаў, слуга, Чацкі.

Фамусаў

А! Александр Андрэіч, просім,

Сядайце ў нас.

Чацкі

Заняты вы?

Фамусаў *(да слугі).*

Ідзі.

Слуга выходзіць.

Так, справы розныя у каляндар заносім,

Яшчэ забудуцца, глядзі.

Чацкі

Вы сёння штосьці не ў настроі;

Скажыце, можа я не ў час прышоў сюды?

Ці Соф'і Паўлаўне бяды

Не прычынілася якое ?

У вас разгубленасць у рухах, у вачах

Фамусаў

Ах, бацюхна, знайшоў загадку,

Я не ў настроі!.. Я ў гадах;

Няёмка-ж мне ісці ў падскокі, братка.

Чацкі

Ніхто не запрашае вас;

Я толькі запытаў два словы

Пра Соф'ю Паўлаўну, а можа нездарова?

Фамусаў

Цьфу, божухна, даруй! Ужо каторы раз
Чаўпе адно дарма!
То Соф’і Паўлаўны на свеце лепш няма,
То Соф’я Паўлаўна хварээ,
Ты ўпадабаў яе, спытаюся цябе я?
Аблётаў свет; мо захацеў пабрацца?

Чацкі

А вам на што?

Фамусаў

Мяне не дрэнна-б запытацца,

Бо з ёю мы крыху свае;

І нездарма здавён яе

Маёй дачкою называлі

Чацкі

Каб я пасватаўся, што-б вы мне адказалі?

Фамусаў

Па-першае, сказаў-бы: не блазнуй,

Да пакіруй маёнткам спрытна,

Галоўнае-ж, služы, а не гультуй.

Чацкі

Служыць-бы рад, падслужвацца агідна.

Фамусаў

Ну, вось-жа, ўсе вы гардзякі!
А што-б спытацца, як жылі бацькі,
Вучыцца ў сталых, у дастойных:

Напрыклад, мы, ці дзядзька ваш пакойнік,
Максім Петровіч; той - не то на серабры!
На золаце ён еў; сто чалавек к паслугам;
У ордэнах увесь; а ездзіў толькі цугам;
Век пры двары, ды пры якім двары!
Цяпер таго няма і ў напаміне,
Пры гасударыні служыў Екацерыне.
Былі мажныя ўсе! І з месца не скрануць –
Паклонішся – тупеем не матнуць.
Вяльможа ў ласцы – большы гонар:
Адменны быў і дом і стол ягоны.
А дзядзька! што твой князь? што граф?
Так паглядзець, прайсці патрап,
А падлізацца трэба дбала,
Дугой сагнецца сто разоў:
На куртагу спяшаў, ды нейк ступіў няўдала,
Ледзь чэрап не прабіў, як грымнуўся далоў;
Стары завойкаў хрыпла, ўпаўшы,
І быў надораны усмешкай найласкаўшай;
Царыца засмяялася; што-ж ён?
Устаў, падправіўся, хацеў зрабіць паклон,
Другі раз вобземлю – нарокам -
А рогат горай, ён і трэці тым жа тропам,
А? як па-вашаму? па-нашаму – спрыцён,
Упаў балюча, ўстаў здаровы.
Затое хто на віст запрошан, як не ён?
Хто чуе пры двары прыветлівае слова?
Максім Петровіч. Хто пашану дастае?
Максім Петровіч. Іншым дзе там!
Пасады дзеліць хто і пенсіі дае?

Максім Петровіч. Вось! А вы – спрабуйце гэтак!

Чацкі

Дапраўды, свет пачаў дурнець,
Сказаць вы можаце ўздыхнуўшы;
Як параўнаць, ды паглядзець
Век сеннешні і век мінуўшы:
Паданне свежае, а веры цяжка даць;
Як той і славе быў, хто лепей гнуўся крукам,
Як не не ў вайне, а ў міры лобам браць
Умелі – аб падлогу грукаць!
Хто з просьбай: той ляжы ў пагардзе на зямлі,
Тым, хто вышэй, хвалу карункамі плялі.
Быў просты век пакорнасці і страху,
Усё пад выглядам дагоджвання цару,
Я не аб дзядзьку вашым гавару,
Яго мы не стрывожым праху;
Тым часам-жа цяпер, скажыце дадушы,
Хто ў рабалепстве самым ярым
Народ наважыцца смяшыць,
Б’ючы патыліцай ахвярна?
А там равеснічак, дзядок,
Убачыўшы такі падскок,
Трухлеючы ў скуры ўласнай,
Напэўна гаварыў: ах! каб і мне так шчасна!
Хоць шмат аматараў на подласць, што й казаць,
Цяпер іх страшыць смех, іх сорам закілзаў;
І нездарма яны не у ласцы ў гасудараў.

Фамусаў

Ах! божухна! ён карбанары!

Чацкі

Не, зараз свет стаў не такі.

Фамусаў

Ён страшны чалавек!

Чацкі

Вальней усякі дыша,

І не спяшаецца ўпісацца ў блазнюкі.

Фамусаў

Што кажа ён! і кажа, быццам піша!

Чацкі

А у заступнікаў глядзець на столь, зяхаць,

З’явіцца памаўчаць, пашаркаць, паабедаць,

Падставіць крэсла, хустачку падняць.

Фамусаў

Ён вольнасць хоча прапаведваць!

Чацкі

Хто ў падарожжы век, хто жыць *у* вёсцы рад...

Фамусаў

Дык ён жа йдзе супроць улад!

Чацкі

Хто не асоб, а справы цэніць.

Фамусаў

Загад суровы-б даў а гэтакім панам:

Прэч ад сталіц на стрэл, не меней.

Чацкі

Я ўрэшце вам спачынак дам...

Фамусаў

Цярпення, змогі не хапае.

Чацкі

Ваш век бязлітасна я злаяў,

Цяпер жа вы зрабіце ласку:

Адкіньце частку

Хоць веку нашаму ў прыдачу;

Хай будзе так, я не заплачу.

Ф а м у с а ў

Распусты не цярплю і вас не хочу знаць.

Ч а ц к і

Я ўсё сказаў.

Ф а м у с а ў

Даўно заткнуў я вушы.

Ч а ц к і

Я іх не буду абражаць.

Ф а м у с а ў *(хутка).*

Вось лётаюць па свеце, б’юць баклушы,

А вернуцца—парадку не чакай.

Ч а ц к і

Я замаўчаў.

Ф а м у с а ў

Будзь ласкаў, літасць май.

Ч а ц к і

Спрачацца не маё жаданне.

Ф а м у с а ў

Хоць адпусці душу па пакаянне

С л у г а *(уваходзіць).*

Палкоўнік Скалазуб.

Ф а м у с а ў *(нічога не бачыць і не чуе).*

Глядзі, цябе ўпякуць

Пад суд, як піць дадуць.

Ч а ц к і

Да вас прыехаў нехта ў госці.

Ф а м у с а ў

Не слухаю, пад суд!

Чацкі

Вам дакладаюць штосьці.

Фамусаў

Не слухаю, пад суд! пад суд!

Чацкі

Ды паглядзіце, служка тут.

Фамусаў *(адварочваецца).*

А? бунт? так і чакаў садому.

Слуга

Палкоўнік Скалазуб. Дасце загад прыняць?

Фамусаў

Аслы! Ну, колькі ж паўтараць?
Прыняць яго, пазваць, прасіць, сказаць, што дома,
Што вельмі рады. Як мага спяшай.

Слуга выходзіць.

Будзь ласкаў, асцярожнасць май
Вядомы чалавек, выдатны.
Аднак пашаны процьму назбіраў,
Не па гадах і чын прыдатны,
Не сёння-заўтра генерал.
Будзь ласкаў, ты пры ім не пачынай спрачацца.
Эх! Александр Андрэіч, кепска, брат!
Да нас завітвае ён часта,
Я кожнаму, вядома, рад.
Але ў Маскве набрэшуць цёткі:
Нібыта жэніцца ён з Сонюшкаю. Плёткі!
Ён, можа, сам бы з мілаю душой,
Ды я не бачу пільнае патрэбы,
Няма куды спяшацца мне з дачкой;

Яна яшчэ дзяўчо. А, зрэшты, воля неба
Будзь ласкаў, не пярэч пры ім на ўсе бакі,
І недарэчныя ідэі прэч адкінь.
Аднак няма яго! Чаму, з якой прычыны?
Ці не пайшоў ка мне, ў другую палавіну.

*(Спяшаючыся адыходзіць.)*

*З’ЯВА 4*

Чацкі

Як мітусіцца! аж гарыць!
А Соф’я? – Ці няма тут жаніха якога?
З якіх часоў мяне прымаюць, як чужога!
Чаму б ёй тут не быць!..
Хто гэты Скалазуб? Стары ў такім чаканні,
Каб толькі ж ён, - такой бяды…
Ах! хто праездзіў тры гады,
Хай развітаецца з каханнем.

*З’ЯВА 5*

Чацкі, Фамусаў, Скалазуб

Фамусаў

Сергей Сяргеевіч, да нас,
Прашу пачціва, тут жа цёпла;
Вы змерзлі, мы сагрэем вас;
Душнік адчынім, невялікі клопат.

Скалазуб

Навошта-ж лезці вам наверх
Самім... Мне сорам, як сумленны афіцэр.

Фамусаў

Я для такіх сяброў, дзе трэба, ніцма лягу,
Сергей Сергеіч, дружа мой.
Прэч капялюў, скідайце шпагу;

Канапа вось, разляжцеся на ёй.

Скалазуб

Дзе загадаеце, абы мне толькі сесці.

Фамусаў

Ах! бацюхна, сказаць, каб не забыць:
Па сваяках рахункі можам звесці,
Хоць па далёкіх, - спадкаў не дзяліць;
Не ведаў я, ды падказаў мне,
Дай бог здароўя, ваш стрыечны брат,
Як быццам вы сваяк Настассі Нікалаўне?

Скалазуб

Не знаю, вінават;
Мы з ёю не служылі разам.

Фамусаў

Сергей Сергеіч, не чакаў адказу!
Не! Я паўзком перад сваёй раднёй
Знайду яе хоць пад зямлёй.
Пры мне чужых службоўцаў стрэнеш вельмі рэдка;
Усе свае, сястры або сваячкі дзеткі;
Адна Малчалін мне не свой,
Дый то таму, што з галавой.
Калі на крыжык ці пасаду выстаўляеш,
Ну, як жа сваячку не паспрыяеш!
Аднак, брацeнік ваш мне сябра і казаў,
Што шмат выгод праз вас на службе атрымаў.

Скалазуб

За год трынаццаты я вызначыўся з братам
Ў трыццатым егерскім, пасля у сорак пятым.

Фамусаў

Так! шчасце у каго ёсць гэтакі сынок!

Здаецца, носіць у пятлічцы ордэнок? -

Скалазуб

У жніўні, трэцяга; ў траншэю мы заселі,

Ён з бантам атрымаў, а мне на шыю ўздзелі.

Фамусаў

Пачцівы чалавек, і паглядзець, дык хват,

Цудоўны чалавек у вас стрыечны брат.

Скалазуб

Ды нейкіх правіл новых нахапаўся,

Выходзіў чын яму; са службы ўзяў падаўся,

У вёсцы кніжкі стаў чытаць.

Фамусаў

Вось маладосць!.. чытаць!.. а потым хваць!..

А вы паводзіліся слаўна,

Даўно палкоўнікі, а служыце нядаўна.

Скалазуб

Не скрыўджан шчасцем я ў сваіх сябрах,

Вакансій мне не заступілі:

Старэйшых выключаць са спісаў акурат,

А тых, паглядзіш, перабілі.

Фамусаў

Так, кожнаму па-свойму бог дае!

Скалазуб

Здараюцца удачы лепш мае.

Вось у пятнаццатай дывізіі, не далей,

Аб нашым хоць сказаць брыгадным генерале.

Фамусаў

Злітуйцеся, чаго вам не стае?

Скалазуб

Я не крыўдую, не міналі,

Аднак-жа за палком два годы марнавалі -

Фамусаў

Ці ж гнацца за палком?
Затое ў іншым век вяком
Другім не paраўнацца з вамі.

Скалазуб

Не, ёсць у корпусе старэй мяне гадамі,
Я з васемсот дзевятага служу;
Так, здабываць чыны батага ёсць каналаў;
Пра іх праўдзіва, як філосаф, я кажу;
Мне толькі-б дамагчыся генерала.

Фамусаў

І добра кажаце, дай бог здароўя вам
І генеральскі чын, а там
Не дрэнна б, час не марнаваўшы,
Пагаварыць аб генеральшы.

Скалазуб

Жаніцца? я не ад таго.

Фамусаў

Што ж? ёсць пляменніца, дачка ў таго-сяго;
Ў Маскве нявесты знойдуцца заўсёды;
Чаго? стае у нас прыплоду;
А, бацюхна, спытаюся я вас,
Дзе знойдзецца сталіца, як Масква.

Скалазуб

Дыстанцыі вялізнага памеру.

Фамусаў

Густ, бацюхна, адменная манера;
На ўсё тут свой закон гатоў:
Да прыкладу, у нас здаўна ўжо так вядзецца,

Што сыну хвала праз бацькоў.
Хай кволенькі, але-ж як наскрабецца
Душ тысячкі дзве радавых,
Той і жаніх.
А іншы хоць спрытней і поўны надзіманства
Хай пра ягоны розум чуткі йдуць,
Не прымуць у сям’ю, на нас не пакрыўдуй,
Бо толькі тут яшчэ пільнуюцца дваранства.
Хіба ж гэта адно? вазьміце вы хлеб-соль:
Хто хоча завітаць, заходзь пад нашу столь
Запрошаны ці не – ўсім адамкнуты дзверы,
А чужаземцам насамперад;
Сумленны ж госць ці прайдзісвет
Для нас аднолькава, на ўсіх гатоў абед.
Зірніце вы: ад галавы да лытак
На кожным масквічы адменны ёсць адбітак,
Зрабіце ласку, кіньце погляд ваш
На юнакоў - сынкоў і ўнучкаў,
Хоць і ўшчуваем іх, але разваж, -
Блазнота, а настаўнікаў навучаць!
А нашыя дзядкі??—Як возьме іх задзёр,
Аб справах як пачнуць, што слова—прыгавор,—
Бо сталбавыя ўсё, нікога не шманаюць;
І аб урадзе так часамі разважаюць,
Каб іх падслухалі... чакай бяды!
Сказаць, што новае высоўваюць—куды,
Хавай нас божа. Не. А завядуцца
Аб тым, аб сім, часцей-жа ні аб чым,
Уздымуць спрэчкі, шум і... разбрыдуцца.
Па розуму яны—ў адстаўцы дзеячы!

Але ў свой час, я вам сказаў бы нават,
Усе-ж яны прычыняцца да справы. —
А дамы? ткніся хто, памкніся, саўладай;
На ўсё гатоў прысуд, няма над іх суда;
Пры картах як паўстануць дружным бунтам,
Дай бог цярплівасці,—я сам-жа быў жанат.
Скамандаваць прымусьце іх прад фрунтам!
Пашліце на паседжанне ў Сенат!
Ірына Ўласаўна! Лукер'я Алексеўна!
Тацяна Юраўна! Пульхерыя Андрэўна!
А хто дачок страчаў, той галаву схілі!
Быў тут у нас кароль нямецкае зямлі;
Дзівіўся ён дзяўчат маскоўскіх чарам,
Іх добрым сэрцам, а не тварам;
Ды сапраўды, ці льга лепш выхаваным быць!
Умеюць-жа сябе падхарашыць
Ядвабамі, другім убранствам,
А слоўца вымавяць не йнакш, як з выдрыганцам.
Рамансы вам пяюць паводле мод,
Французскія, на верхніх нотках,
А да вайсковых, як на мёд,
А ўсё таму, што патрыёткі.
Рашуча запэўнаю вас:
Наўрад ці знойдзецца сталіца, як Масква.

Скалазуб

Сказаў-бы ад свае асобы,
Надзвычай паспрыяў пажар ёй для аздобы.

Фамусаў

Не успамінайце нам, завельмі скаргаў шмат!
З тых пор дарогі, маставыя,

Дамы і ўсё на новы лад.

Чацкі

Хоць новыя дамы, а погляды старыя.
Усцешцеся, не вынішчаць да тла
Ні моды, ні пажары, ні гады іх.

Фамусаў *(Чацкаму).*

Эй, завяжы на памяць матузок;
Прасіў я памаўчаць, не цяжкая-ж паслуга?

*(Скалазубу.)*

Дазвольце, бацюхна. Вось Чацкага, мне друга,
Андрэя Ільіча, нябожчыка, сынок:
Не служыць ён, бо ў тым карысці не знаходзіць.
Каб захацеў, — круціў-бы спраў гарой.
Шкада, шкада, ён хлопец з галавой.
Як піша, пераклады робіць...
Ну, як не шкадаваць, што з розумам такім...

Чацкі

Прасіў-бы шкадаваць я вас аб кім другім.
І вашыя хвалы мне дакучаюць.

Фамусаў

Не я адзін, усе так асуджаюць.

Чацкі

А суддзі хто? Да вольнага жыцця
Варожасць пагасіць старэчам немагчыма,
Іх погляды ідуць з газетнага шмацця
Часоў ачакаўскіх і заваёвы Крыма.
Заўжды гатовыя ушчуць,
Усё адно спяваюць штораз,
А ім-бы пра сябе адчуць,
Штб чым старэй, тым горай.

Дзе? пакажыце нам, айчыны тых айцоў,
З якіх-бы мы ўзялі узор для юнакоў?
Ці хто між тых, з грабежніцтва багатых?
Што раду ад суда ў сяброў знайшлі, ў радні,
Палацаў шмат прыдабылі выдатных,
Дзе скарбы шэйгаюць, балююць дзень пры дні,
Дзе чужаземныя не уваскросяць знаўцы
Агіднейшых адзнак мінуўшчыны старой.
Ды і каму ў Маскве не заціскалі рот
Вячэры, полудні і танцы?
Ці той, што да яго мяне яшчэ з пялён,
Вы з нейкаю няўцямнай мэтай,
Вазілі дзіцем на паклон?
Той Нестар знатных прайдзісветаў,
Што слуг натоўпы меў наўкруг;
Ахоўвалі яму заўсёды небаракі
І гонар, і жыццё; і раптам гэткіх слуг
Ён прамяняў на гончых тры сабакі!!!
Ці можа той яшчэ, што для пацех сілком
Прыгонных на балет звёз на шматлікіх фурах,
Малых дзяцей забраўшы ад бацькоў?!
У думках дбаўшы пра зефіраў і амураў,
Ён прымушаў Маскву здзіўляцца іх красе!
Але з пазык не заплаціў адсоткаў: —
Амуры і зефіры ўсе
Папрадаваны паасобку!!!
Вось тыя, хто да сівізны дажыў!
Вось паважаць каго нам трэба на бязлюддзі!
Вось нашы мудрацы суровыя і суддзі!
Хай знойдзецца цяпер адзін

З нас, маладых: варожы да зарукі,
Не хочучы пасад і падвышэння ў чын,
Ён прагным розумам паглыбіцца ў навукі,
Ці ў ім сам бог абудзіць творчы жар
Да хараства, мастацтваў, слаўных вечна,
Яны у крык: разбой! пажар!
Яго зняславяць—лятуценнік! небяспечны!! —
Мундзір! адзін мундзір! з даўнейшае пары
У іх ён прыкрываў пад вышыўкай прыгожай
Жабрацтва розуму, нікчэмнасць душ старых;
І нам за імі ў падарожжа!
Пал да мундзіра жыў і ў жонак і ў дачок!
Я сам прыхілен быў, нядаўна схамянуўся.
Цяпер ад гэтага дзяцінства даў зарок;
Ды хто-б тады за ўсімі не памкнуўся?
Як з гвардыі адны, а тыя ад двара
Сюды часамі прыязджалі, —
Жанкі канчаліся: ура!
І каптуры ўгару шпурлялі!

Фамусаў *(пра сябе).*

Ну, ўцягне ён мяне ў бяду. *(Уголас.)*
Сергей Сергеіч, я пайду,
Вас пачакаю ў кабінеце. *(Выходзіць.)*

*З’ЯВА 6*

Скалазуб.

Я ўпадабаў, пры гэтай смеце
Як трапна закранулі вы
Благія нахілы Масквы
Да гвардыі, гвардзейскіх, гвардыёнцаў;
Іх золату, шытву дзівуюцца, як сонцу!

А ў Першай арміі калі адсталі? ў чым?

Так падагнана ўсё і ў стане вельмі вузка,

І афіцэраў я-б злічыў,

Што ўмеюць гаварыць нядрэнна па-французску.

*З’ЯВА 7*

Скалазуб, Чацкі, Соф’я, Ліза.

Соф'я *(бяжыць да акна).*

Ах! божа мой! упаў, забіўся! *(Траціць прытомнасць.)*

Чацкі

Хто?

Хто гэта?

Скалазуб

З кім бяда?

Чацкі

Яна самлела з жаху!

Скалазуб

Ды хто? адкуль упаў?

Чацкі

Ударыўся аб што?

Скалазуб

Ці не дзядуля наш даў маху ?

Ліза *(завіхаецца каля паненкі).*

Каму прызначана: не абміне свой кон,

Малчалін на каня сядаў, ступіў у стрэмя,

Дубка стаў конь,

Ён вобземлю і проста цемем.

Скалазуб

Затужыў павады. Што гэта за яздок!

Зірну, як рэзнуўся, грудзьмі ці можа ў бок?

*(Выходзіць.)*

*З’ЯВА 8*

Тыя ж без Скалазуба.

Чацкі

Як ратаваць? Хутчэй адказвай.

Ліза

Вады; у тым пакоі ёсць.

Чацкі бяжыць і прыносіць. Усё далейшае—напаўголаса, пакуль Соф'я апрытомнее.

Наліце ў шклянку.

Чацкі

Маеш, вось.

Вальней шнуроўку ты развязвай,

Да скроняў воцту прыкладзі,

Вадой папырскай. Паглядзі

Лягчэй, як быццам, дыхаць стала.

Павеяць чым?

Ліза

Вось апахала.

Чацкі

Зірні ў акно,

Малчалін на нагах даўно!

Як дробязі яе трывожаць.

Ліза

Так; з гэткім сэрцам цяжка жыць,

Яна зусім глядзець не можа.

Як чалавек з каня зляціць.

Чацкі

Апырсквай зноў яе вадою.

Вось так. Яшчэ. Яшчэ.

Соф'я *(глыбока ўздыхнуўшы).*

Хто тут са мною?

Я нібыта ў сне. *(Спяшаючыся і голасна.)*

Дзе ён? Што з ім? Скажыце мне.

Чацкі

Хай налажыў-бы галавою,

Чым непакоіць вас дарма.

Соф' я

Вы жудасны з халоднасцю такою!

Глядзець на вас, вас слухаць сіл няма.

Чацкі

А што-ж мне, скажаце, ад жалю надрывацца?

Соф' я

Туды спяшаць, там быць, дапамагаць старацца.

Чацкі

Без дапамогі вас пакінуўшы марнець?

Соф' я

На што вы мне?

Так, праўда, не свая бяда — для вас пацеха,

Забіся бацька родны—ўсё адно. *(Лізе.)*

Ідзем туды, бяжым.

Ліза *(адводзіць яе ўбок).*

Чакайце, не рабіце смеху!

Ён жыў, здароў, зірніце праз акно.

Соф'я высоўваецца ў акно.

Чацкі

Трывога! хуткасць! гнеў! спалох!

Так могуць людзі уражацца,

Як з лепшым сябрам ім даводзіцца расстацца.

Соф'я

Рукі не можа ўзняць. Ідуць сюды удвох.

Чацкі

Жадаў-бы з ім забіцца...

Ліза

Для кампаніі?

Соф'я

Пакіньце пры сабе жаданне.

*З’ЯВА 9*

Соф'я, Ліза, Чацкі, Скалазуб.

Малчалін *(з падвязанаю рукою).*

Скалазуб

Васкрос, жыў і здароў пакуль,

Пабіў крыху руку,

А зрэшты, ўсё фальшывая трывога.

Малчалін

Я вас перапужаў, даруйце імем бога.

Скалазуб

Ну, я не меркаваў, што будзе тут

Вам ірыгацыя. Без памяці ўляцелі. —

Мы здрыгануліся. А вы ўзялі самлелі,

І што-ж?—з драбніцы перапуд.

Соф’я *(не ўздымаючы ні на кога вачэй).*

Ах! бачу—справа дробязная,

А ўся яшчэ цяпер дрыжу.

Чацкі *(да сябе).*

Малчаліна не заўважае!

Соф’я

Аднак-жа пра сябе скажу,

Што не з пужлівых. Так бывае,

Карэта зваліцца, - падымуць: я ізноў

Ляцець гатова стрымгалоў,

А ўсё найменшае ў другіх мяне пужае,

Хоць і бяды няма, да сэрца ўсё прыму,
Хоць незнаёмы мне, усім-бы спачувала.

Чацкі *(да сябе)*

Як спавядаецца яму,
Што некага пашкадавала!

Скалазуб

Дазвольце, навіну падам:
Княгіна Ласава ёсць паміж нашых дам,
Наезніца, ўдава, але-ж вось, дайце веры,
Не ездзіа за ёй багата кавалераў.
Разбілася надаўна ў пух;
Жаке не падтрымай, лічыў ён, мабыць, мух.
Цяпер рабрыны не стае,
Дык для падтрымкі хоча мужа.

Соф'я

Ах, Чацкі,гэта-ж лёс дае
Выпадак выказаць вам вельмі слушна
Да гора бліжняга сваю велікадушнасць.

Чацкі

Я гэта выказаў якраз
Маім адданым шчырэваннем,
І пырсканнем, і адціраннем;
Не ведаю каму – я уваскросіў вас.
(Бярэ капялюш і выходзіць.)

*З'ЯВА 10*

Тыя-ж апрача Чацкага.

Соф'я

Вы ўвечары прыедзеце?

Скалазуб

Як рана?

Соф’я

Ды чым раней; сябры патанцаваць
Збіраюцца пад фартэпіяна, -
Жалоба ў нас, дык нельга баляваць.

Скалазуб

Зайду да бацюхны, а ў вечары з’яўлюся.
Ўсяго найлепшага.

Соф’я

Бывайце.

Скалазуб *(цісне руку Малчаліну).*

Ваш слуга. *(Выходзіць.)*

*З’ЯВА 11*

Соф’я, Ліза, Малчалін.

Соф’я

Малчалін! Думала, што з розуму кранулся!
Мне вашае жыццё так дарага! Ці льга,
Ці трэба ім гуляць і так неасцярожна?
Скажыце, як у вас з рукой?
Мо кропель даць якіх? Мо трэба супакой?
Пашлем па доктара, так пакідаць не можна.

Малчалін

Хусцінкай завязаў, не трэба іншых рад.

Ліза

Лухта, гатова йсці ў заклад;
Каб не да твару вам, - не трэба перавязка;
А тое не лухта, што будуць людзі браскаць,
На смех, таго й чакай, падыме Чацкі вас;
І Скалазуб, як крутане чупрыну,
Прылжэ, як млелі, сто дадасць прыкрас;

Пакпіць і ён мастак, ды хто не строіць кпіны!

Соф’я

Ці-ж я хоць кім з іх даражу?
Хачу – люблю, хачу – скажу.
Малчалін! Быццам я сябе не прымушала?
Зайшлі вы, слова не сказала,
Пры іх не смела я дыхнуць,
Вас запытаць, на вас зірнуць. –

Малчалін

Не, Соф’я Паўлаўна, вы тоіцеся мала.

Соф’я

А дзе-ж мне скрытасці прыдбаць!
Гатова я была ў акно да вас скакаць.
Ды што мне да каго? да іх? ці да сусвету?
Ім смешна? – хай пакпяць; ім прыкра? – хай злуюць.

Малчалін

Каб не быдо бяды нам праз адкрытасць гэту.

Соф’я

Ці-ж выклік на дуэль да вас яны пашлюць?

Малчалін

Ах! злыя языкі страшней ад пісталета.

Ліза

У бацюхны сядзяць яны утрох,
От, каб вы сталі на парог
З вясёлым тварам, бесклапотна:
Калі гаворка нам пад густ,—
Куды лепш верыцца ахвотна!
І Александр Андрэіч— тут
Аб даўніх днях, пацехах даўніх
Пачніце з ім апавяданн:

Усмешачка і пара слоў
І закаханы верыць зноў.

Малчалін

Вам раіць смеласці не маю. *(Цалуе ёй руку.)*

Соф'я

Вы хочаце? Пайду ўсміхацца паміж слёз,
Але прыкідвання, баюся, не стрываю.
Нашто сюды бог Чацкага прынёс! *(Выходзіць.)*

*З'ЯВА 12*

Малчалін, Ліза

Малчалін

Вясёлае стварэнне ты! жывое!

Ліза

Прашу пусціць, і без мяне вас двое.

Малчалін

Як вочкі свецяцца твае!
Я пакахаў цябе!

Ліза

А панну як?

Малчалін

Яе
Па службе, а цябе…*(Хоча яе абняць.)*

Ліза

З дакукі.
Трымайце далей рукі!

Малчалін

Ёсць у мяне драбнічкі тры:
Ёсць туалет, хітрэйшая работа:
Наверсе люстрачка і люстрачка ўнутры,
Наўкол прарэзы, пазалота;

Падушачка, там з бісеру узор,

І перламутравы прыбор—

Ігольнік і нажнічкі, дужа міла.

Перлінкі, перацёртыя ў беліла.

Памада ёсць да губ, да іншых прычындал,

З парфумай пляшачкі: язьмін і рэзеда.

Ліза

Каб ведалі, мяне інтэрасам не ўразіш;

Вось адкажыце лепш, чаму

Вы з паннай, як святы, а з пакаёўкай блазен?

Малчалін

Сягоння хворы я, абвязкі не здыму;

Ты да мяне прыдзі з абеду -

Усё дарэшты будзеш ведаць.

*(Выходзіць у бакавыя дзверы.)*

*З'ЯВА 13*

Соф'я, Ліза

Соф'я

Была ў бацюхны, ўсе ад яго пайшлі.

Я сёння хворая, і не пайду абедаць,

Скажы Малчаліну, сюды яго пакліч,

Няхай ідзе мяне адведаць.

*(Адыходзіць да сябе.)*

*З'ЯВА 14*

Ліза

Ну і людзі ў гэтай старане!

Яна к яму, а ён ка мне,

А я... ах, толькі мне каханне страшыць душу! -

А як не пакахаць буфетчыка Петрушу.

*Канец другой дзеі.*

## ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ

### *З’ЯВА 1*

Чацкі, пасля Соф’я.

Чацкі

Прыжду яе, хай не трымае ўпотай;

Нарэшце, хто-ж ёй люб? Малчалін? Скалазуб?

Малчалін быў хурмы, як слуп!..

Мізэрная істота!

Стаў разумней? А той чаго —

Хрыпун, ўдаўленік, фагот.

Сузор'е ў ім манеўраў і мазуркі!

Каханне ёй — гульня у жмуркі,

А мне...

*(Уваходзіць Соф'я)*

Вы тут? Я вельмі рад.

Я гэтага жадаў.

Соф’я *(да сябе).*

І вельмі непадлад.

Чацкі

Вядома, не мяне шукалі?

Соф’я

Я не шукала вас.

Чацкі

Вы можа б адказалі,

Хоць і не ў час, ды каб я ведаць мог,

Каго кахаеце?

Соф’я

Ах! цэлы свет, дальбог.

Чацкі

А хто найболей люб?

Соф’я

І сваякі, й другія.

Чацкі

Усе больш, як я?

Соф’я

Ёсць і такія.

Чацкі

Тут вырашана ўсё, дык чым я пасаблю?
Ёй смех, а мне хоць у пятлю.

Соф’я

Ці хочаце пачуць праўдзівыя два словы?
Калі хоць дробнае ў каго дзівацтва ёсць,
Хоць не дарэчы весялосць, —
У вас адразу досціпы гатовы,
А самі вы...

Чацкі

А сам? я смешны, ці-ж не так?

Соф’я

Так, многа маеце адзнак —
І грозны зірк і тон ваш непамысны,
А грозьба на сябе была б найбольш карыснай.

Чацкі

Я з дзіўнатой, а хто-ж без дзіўнаты?
Той, у каго усе адзнакі дурнаты;
Малчалін, я б сказаў...

Соф’я

Знайдзіце прыклад новы,
Відно, што жоіпь на ўсіх распырскаць вы гатовы;
А каб не замінаць, мне лепш адсюль пайсці.

Чацкі *(трымае яе).*

Не, не! *(Убок.)* Прыкінуся раз у жыцці.
Спрачацца ўжо дарэмна;
Перад Малчаліным я, праўда, вінават;
Ён мусібыць яе той, што тры гады назад;
Шмат на зямлі такіх пертварэнняў
Урадаў, розумаў, паводзін і пагод;
Асобы ёсць, якіх за дурняў меў народ;
Адзін па арміі, а той благім паэтам,
Той… страшна вымавіць, але прызнана светам,
Найболей за апошнія гады,
Паразумнелі хоць куды.
Хай у Малчаліна ёсць розум, гені смелы,
Ды ці-ж такі запал? пачуцці? страсць у ім?
Каб свет яму здаваўся цэлы
Без вас мізэрным і малым?
Каб прысняшаліся каханнем
Удары сэрца кожны міг,
Каб дум і спраў былі да аднае усіх,
Душою — вы? вам слугаванне?..
Я адчуваю так, я толькі слоў няйму,
Але таго, чым я ўсхвалёван і абуран,
Не пажадаў бы ворагу свайму.
А ён?.. стрывае й галаву панурыць.
Рахманы, у такіх гарэзнасць не відна;
Бог ведае, што ў ім за таямніца;
Што вы замест яго прыдумалі адна,
Што ў галаве яго век не магло змясціцца,
Вы ў захапленні ім і мусібыць таму
Надалі якасці свае яму;
Не грэшны ён зусім, вам больш грахоў адмольваць,

Не! хай разумны ён і разумнее болей,
Але хачу спытаць: а вас ці варты ён?
Каб абыякавей перацярпець мне страту,
Як чалавеку, з кім раслі вы змалку дзён,
Як сябру вашаму, як брату,
Упэўніцца дазвольце ў тым;
Затым
Я паспрабую ўсцерагчыся ад вар'яцтва;
Падамся зноў у свет — астыць, ахаладаць,
Не думаць пра каханне, і не дбаць, —
Згубіцца ў свеце, ўсё забыць і забаўляцца.

Соф’я *(да сябе).*

Міжволі з розуму звяла! (*Уголас.*)
Нашто хавацца?
Малчалін раніцой мог без рукі застацца,
Я спагадаць яму адразу пачала,
Вы-ж, трапіўшы на той выпадак,
На ўвагу, паваt, не ўзялі,
Што да ўсіх чыста можна мець спагаду;
А, можа, й праўды зерня вы знайшлі,
І я ў яго – заўжды гарачы абаронца:
Навошта-ж вам, хачу у твар сказаць,
Так языка не умець трымаць?
Так пагарджаць людзьмі бясконца?
Што літасці й цішэйшаму няма!.. Чаго?
Як толькі ўспомніць хто яго:
Град жартаў, кпін ударыць проста ў мэту
Кпіць! і заўсёды кпіць! як вас стае на гэта!

Чацкі

Ах! божа мой! ці з тых-жа я,

Хто смех за мэту ўзяў жыцця?
Мне весела, як смешных сустракаю,
Часцей — ад іх я пазяхаю.

Соф'я

Ну, гэта да другіх стасуецца людзей,
Наўрад ці надакучыў-бы Малчалін,
Каб вам спазнацца з ім бліжэй.

Чацкі (*горача*).

Навошта-ж вы яго так блізка спазнавалі?

Соф'я

Я не імкнулася: бог даў.
Глядзіце, сябрам ён для ўсіх у доме стаў;
Пры бацюхну паперы піша,
Той часта непадлад злуе,
А ён яго бязмоўнасцю усцішыць,
Даруе ад душы ўсяе;
Сказаць папраўдзе,
Шукаць бы весялосці мог;
Ані; ён ад старых не ступіць за парог,
Смяёмся мы, забавы ладзім,
Ён з імі рад не рад, у карты да начы
Гуляе…

Чацкі

Цэлы дзень гуляе!
Яго нясдавяць, ён маўчыць! *(Убок.)*
Яна яго не паважае.

Соф'я

Так, розуму у ім гэткага няма,
Што гені для адных, а для другіх чума,
Што кемнасцю блішчыць ды хутка надакучыць,

Які ўвесь свет дазвання-б зганьбаваў,

Каб свет аб ім што-колечы сказаў;

Ці з гэткім розумам сям’я дабро палучыць?

Чацкі

Сатыра ці мараль—ні можа нават горш? *(Убок.)*

Яна яго не цэніць і на грош.

Соф’я

Цудоўнае натуры

Ён зрэшты: сціплы, мяккі, паслушны,

На твары ані следу буры

І на душы ніякае віны;

Чужых на ўсе бакі не ганіць,

І вось за гэта ён мне люб.

Чацкі *(убок).*

Жартуе, гэта не каханне. *(Уголас.)*

Дамаляваць вам пасаблю

Партрэт Малчаліна я проста;

А Скалазуб? Вось гэта постаць.

За армію стаіць гарой,

Ён і з аблічча, і са стану,

І нават з голасу герой...

Соф’я

Ды не майго рамана.

Чацкі

Не вашага? Хто разгадае вас?

*З’ЯВА 2*

Чацкі, Соф’я, Ліза.

Ліза *(шэптам).*

Паненка, зараз-жа, якраз

Услед за мной, Малчалін будзе.

Соф’я

Даруйце, трэба адыходзіць мне хутчэй.

Чацкі

Куды?

Соф’я

Да парыкмахера.

Чацкі

Бог з ім.

Соф’я

Шчыпцы астудзіць.

Чацкі

Няхай сабе...

Соф’я

А як прымаць гасцей?

Чацкі

Бог з вамі, буду зноў адзін з сваёй загадкай.
Аднак, дазвольце мне зайсці як-бы выпадкам
У ваш пакой на некалькі хвілін;
Паветра, сцены там лагодна
Сагрэюць, ажывяць, дадуць мне супачын
Прыгадкі цяжкія аб тым, што незваротна!
Я не заседжуся, хвіліны хопіць мне,
Пасля, падумайце, член Англійскага клуба,
Там выхваляць пачну штодня у гамане
Розум Малчаліна і душу Скалазуба.

Соф'я паціскае плячмі, ідзе да сабе і замыкаецца, за ёю Ліза.

*З’ЯВА 3*

Чацкі, пасля Малчалін.

Чацкі

Ах! Соф'я! Ці-ж магла Малчаліна абраць!

А чым не муж? Хоць талентаў і мала,
Ды каб дзяцей прыдбаць,
Каму яшчэ іх не хапала?
Рахманы, сціпленькі, заўжды ружовы твар.

Уваходзіць Малчалін.

Вось ён на пальчыках, і не багат на мову;
А як у сэрца ўлез, якіх ужыў ён чар!
*(Зварочваецца да яго.)*
Мы, Алексей Сцепаныч, слова
Не перакінулі яшчэ.
Ну, як жыццё у вас цячэ?
Без смутку зараз? і без гора?

Малчалін

Як і даўней.

Чацкі

А як, спытацца варт?

Малчалін

Так, дзень пры дні, сягоння, як учора.

Чацкі

За карты ад пяра? і за пяро ад карт?
І вызначаны час прылівам і адлівам?

Малчалін

Як мог і ўмеў, я працаваў
І, лічачыся па архівах,
Тры ўзнагароды атрымаў.

Чацкі

Вас вабяць гонар і пашана?

Малчалін

Не, талент свой ва ўсіх...

Чацкі

А ў вас?

Малчалін

Аж два:

Дакладнасць і памеркаванасць.

Чацкі

Цудоўнейшыя два! ўсіх нашых варт яны.

Малчалін

Са службай дрэнна ў вас, ці мо’ не йдуць чыны?

Чацкі

Чыны людзьмі даюцца,

А людзі могуць падмануцца.

Малчалін

Як мы здзіўляліся.

Чацкі

Ніякіх дзіў няма.

Малчалін

Вас шкадавалі мы.

Чацкі

Стараліся дарма. Малчалін

Тацяна Юраўна казала, штось было там,

У Пецербургу чуткі йшлі;

З міністрамі у згодзе вы былі,

Пасля парвалі...

Чацкі

Ёй што за турбота?

Малчалін

Тацяне Юраўне!

Чацкі

Не ведаю зусім.

Малчалін

Тацяны Юраўны!!

Чацкі

Я чуў, што драбязная,

А не страчаўся век.

Малчалін

Ды што вы, мо’ не тая?

Тацяна Юраўна!!! Вядомая усім,

Ўсе, хто у чынах высокіх ходзіць,

Ёй сваякі ці дружбу водзяць.

Тацяну Юраўну не грэх наведаць вам.

Чацкі

Навошта-ж?

Малчалін

Так! Часамі там

Заступніцтва знаходзім, дзе не мроім.

Чацкі

Я езджу да жанчын, ды толькі па другое.

Малчалін

Якая ветласць у яе! чуллівасць! дабрата!

А як балы дае багата

Яна з каляд і да паста,

Пасля на дачы ўлетку святы.

Сапраўды, што-б вам у Маскве у нас служыць?

І ўзнагароды мець і весела пажыць?

Чацкі

За справамі—пацех я сцерагуся;

Калі-ж дурыцца — дык дуруся;

Злучаць-жа гэтыя заняткі у адным

Ёсць шмат майстроў; я не таварыш ім.

Малчалін

Даруйце. Тут злачынства я не бачу;
Вось сам Фама Фаміч, знаёмы вам?

Чацкі

Ну што-ж?

Малчалін

Пры трох міністрах быў начальнікам прызначан;
Адкліканы сюды...

Чацкі

Прыгож!
Драбнейшы чалавек, пустаслоў адборны.

Малчалін

Як можна! за узор яго прымаюць стыль,
Чыталі вы?

Чацкі

Я не чытач лухты,
А перш за ўсё узорнай.

Малчалін

Не, давялося мне з прыемнасцю чытаць,
Хоць не пісьменнік я...

Чацкі

Па ўсім прыкметна.

Малчалін

Я думкі ўласнае не важуся падаць.

Чацкі

Чаму-ж вы так сакрэтна?

Малчалін

Не можна у гады мае
Мець думкі ўласныя свае.

Чацкі

Даруйце, мы зусім не хлапчанята;

Чаму-ж чужая думка толькі свята?

Малчалін

Патрэбна-ж нам залежаць ад другіх.

Чацкі

Нашто ж патрэбна?

Малчалін

Мы у чынах малых.

Чацкі *(амаль голасна).*

За гэткі розум! гэткія пачуцці

Кахаць яго!.. Падманшчыца мне голаў чмуціць!

*З’ЯВА 4*

Вечар.

Усе дзверы насцеж, апрача ў спачывальню да Соф’і. У перспектыве – шэраг асветленых пакояў.

Слугі завіхаюцца, адзін з іх, галоўны, гаворыць:

Эй, Філька, Фомка, ну, ямчэй!

Сталы для картаў, шчоткі, мел, спрытней.

*(Стукае да Соф’і ў дзверы.)*

Хутчэй перакажыце панне, Лізавета:

Наталля Дзмітраўна, і з мужам, і яшчэ

Адна пад’ехала карэта.

Разыходзяцца, застаецца адзін Чацкі.

*З’ЯВА 5*

Чацкі, Наталля Дзмітрыеўна (маладая дама).

Наталля Дзмітрыеўна

Ці не мыляюся!.. Нібыта ён з вачэй...

Ах, божа! Чацкі зноў з'явіўся.

Чацкі

Што аглядаеце ад ног да галавы,

Няўжо я так за тры гады змяніўся?

Наталля Дзмітрыеўна

Я меркавала, вы далёка ад Масквы.
Даўно тут?

Чацкі

Толькі што.

Наталля Дзмітрыеўна

Надоўга?

Чацкі

Будзем бачыць.
Аднак, зірнеш на вас і здзівішся, нейначай:
Як разбыліся вы, палепшалі—бяда;
Свяжэйшай, маладзейшай сталі:
Агонь, румянец, смех, ігра ва ўсім відаць.

Наталля Дзмітрыеўна

Я замужам.

Чацкі

Дауно-б вы так сказалі!

Наталля Дзмітрыеўна

Мой муж, цудоўны муж, вось прыдзе ён сюды,
Я пазнаёмлю, ёсць жаданне?

Чацкі

Прашу.

Наталля Дзмітрыеўна

І знаю, сапраўды
Вам спадабаецца. Чакаю меркаванняў.

Чацкі

Я веру, ён вам муж.

Наталля Дзмітрыеўна

Зусім-жа не таму,
Па розуму, характару свайму.

Платон Міхайлыч мой паміж усіх адменны!
Ён у адстаўцы, быў ваенны,
Сцвярджаюць з пэўнасцю, хто толькі знаў раней,
Што з талентам яго выдатным,
Каб паслужыў крыху далей,
Вядома, быў-бы ён маскоўскім камендантам.

### *З’ЯВА 6*

Чацкі, Наталля Дзмітрыеўна, Платон Міхайлавіч.

Наталля Дзмітрыеўна

Вось мой Платон Міхайлыч.

Чацкі

Як!
Ну, лёс! Дык мы знаёмы, мой стары дружбак.

Платон Міхайлавіч

Здарова, Чацкі, брат!

Чацкі

Платоне! шанаванне!
Пахвальны ліст табе належыць за трыманне.

Платон Міхайлавіч

Як бачыш, брат:
Жыхар маскоўскі і жанат.

Чацкі

Забыў шум лагерны, сяброўства — даастатку? Спакойны і ляны?

Платон Міхайлавіч

Не, ёсць крыху заняткі,
На флейце я вучу дуэт
А-мольны...

Чацкі

Што вучыў раней пяць зім і лет?
Ды ў мужа сталы густ—найболей дарагое!

Платон Міхайлавіч

Браток, ажэнішся, тады мяне згадай!

І ты пачнеш з нуды свістаць адно і тое.

Чацкі

З нуды! вось як! няўжо ў цябе нуда?

Наталля Дзмітрыеўна

Платон Міхайлыч мой займаўся-б у ахвоту

Тым, што мінулася; парадамі, муштрой...

Вось і занудзіцца часамі раніцой.

Чацкі

А хто забараніў табе знайсці работу?

Ты штаб ці обер? Падавайся ў полк.

Наталля Дзмітрыеўна

Платон Міхайлыч мой здароўем вельмі квол.

Чацкі

Здароўем квол? Дарма ты!

Наталля Дзмітрыеўна

Боль галавы і да таго-ж раматус.

Чацкі

Паветра, руху больш. У вёску, ў цёплы край

Часцей будзь на кані. У вёсцы летам рай.

Наталля Дзмітрыеўна

Платон Міхайлыч горад любіць,

Маскву; за што ў глушы ён дні свае загубіць!

Чацкі

Маскву і горад... Ты дзівак!

А помніш даўняе?

Платон Міхайлавіч

Цяпер, браток, не так.

Наталля Дзмітрыеўна

Ах! галубочак!

Тут гэтак свежа, страх дыхнуць;

Ты расхрыстаўся ўвесь і грудзі расхінуў.

Платон Міхайлавіч

Цяпер, брат, я не той...

Наталля Дзмітрыеўна

Паслухай хоць разочак

Ды зашпіліся ты хутчэй.

Платон Міхайлавіч *(спакойна).*

Чакай.

Наталля Дзмітрыеўна

Ды адступі хоць крышку ад дзвярэй;

Там сівер дзьме, трываць не можна!

Платон Міхайлавіч

Цяпер, брат, я не той...

Наталля Дзмітрыеўна

Анёл мой, ласкай божай

Прашу, з парога адыдзіі

Платон Міхайлавіч *(вочы ўгару).*

Ах, матухна!

Чацкі

Ну, бог цябе судзі;

Ты сапраўды не той зрабіўся вельмі рана!

А ў прошлым годзе, у канцы,

Я знаў цябе ў палку; тады, як толькі ранак:

Гайсаеш на стаенным жарабцы;

Асенні сівер дзьмі, хоць спераду, хоць з тыла.

Платон Міхайлавіч *(уздыхнуўшы).*

Эх! Брат! жыццё было, цяпер успомніць міла.

*З’ЯВА 7*

Тыя-ж, Князь Тугаухаўскі, Княгіня і шасцёра дачок.

Наталля Дзмітрыеўна *(тоненькім галаском).*

Князь Пётр Ільіч, княгіня! Божа мой!

Князёўначкі! Зізі! Мімі!

Гучныя пацалункі, пасля рассядаюцца і аглядаюць адна адну з галавы да ног.

1-я князёўна

Які фасон, як зграбна!

2-я князёўна

Што за фальбоначкі!

1-я князёўна

Абшыта бахрамой.

Наталля Дзмітрыеўна

Не, каб вы бачылі мой цюрлюрлю ядвабны!

3-я князёўна

Які эшарп cousin мне падарыў!

4-я князёўна

Ах, так, барэжавы!

5-я князёўна

Ах! слаўны!

6-я князёўна

Ах, наўздзіў!

Княгіня

Сс! — Хто гэта ў кутку, зайшлі мы, пакланіўся?

Наталля Дзмітрыеўна

Прыезджы, Чацкі.

Княгіня

Ад-стаў-ны, ці як?

Наталля Дзмітрыеўна

Так, падарожнічаў, вось толькі што з’явіўся.

Княгіня

І ха-ла-сцяк?

Наталля Дзмітрыеўна

Так, не жанат.

Княгіня

Князь, князь, — Хутчэй збірайся!

Князь *(настаўляе да яе слыхавую трубку).*

О-хм!

Княгіня

На вечар, у чацвер, да нас прасіць спяшайся

Наталлі Дзмітраўны знаёмага: вось ён!

Князь

І-хм! *(Накіроўваецца, віецца каля Чацкага і кашляе.)*

Княгіня

Вось гэтак дзеткі!

Ім бал, а бацька валачыся на паклон;

Танцоўшчыкаў спаткаеш вельмі рэдка!..

Ён камер-юнкер?

Наталля Дзмітрыеўна

Не.

Княгіня

А ці багат?

Наталля Дзмітрыеўна

О, не!

Княгіня *(голасна, на ўсю сілу).*

Князь, князь! назад!

*З'ЯВА 8*

Тыя-ж і графіні Хруміны: бабка і ўнучка.

Графіня-ўнучка

Ах, grand' maman! ну, хто так рана прыязджае!

Мы першыя! *(Знікае ў бакавы пакой.)*

Княгіня

Нас бэсціць, вось!
Яна тут першая, а нас і за людзей не мае!
Злуе, у дзеўках век, даруй ёй, божа, злосць.

Графіня-ўнучка *(вярнуўшыся, накіроўвае на Чацкага падвойны ларнет).*

Мсье Чацкі! вы ў Маскве! Як і былі, ўсё тыя?

Чацкі

Нашто змяняцца мне?

Графіня-ўнучка

Ізноў-жа халастыя?

Чацкі

А з кім жаніцца мне?

Графіня-ўнучка

Як? за мяжою з кім?
О! нашы шмат вязуць абранак
Сабе адтуль, і нам у сваякі
Майстрых даруюць з модных крамак.

Чацкі

Няшчасныя! Век будуць упікаць
Іх пераймальніцы мадзістак,
Чаму асмельваюцца браць
Арыгіналы, а не спіскі?

*З’ЯВА 9*

Тыя-ж і мноства іншых гасцей. Паміж іншымі Загарэцкі. Мужчыны з’яўляюцца, шаркаюць, адыходзяць убок, вандруюць з пакоя ў пакой ды інш. Соф’я ад сябе выходзіць, усе да яе насустрач.

Графіня-ўнучка

Eh! bon soir! vous voilá! Jamais trop diligente;
Vous nouz donnez toujours le plaisir de l’attente.

Загарэцкі *(Соф’і).*

На заўтрашні спектакль ці маеце білет?

Соф’я

Ды не.

Загарэцкі

Дазвольце перадаць, дарэмна-б падручаўся
Вам іншы хто дастаць, але
Як я пазавіхаўся!
Я й да дырэктара — ён сябар мне, —
Я і ў кантору,
Уранні, ў ш’сць гадзін — не ў пору!
Бо й з вечара ніхто дастаць не мог;
Да тых, да сіх,
З ног
Збіў усіх;
Нарэшце, гэты вось, узяў амаль што сілай
У аднаго, дзядок ён сівы,
Мой сябар, страшны дамасед;
Хай дома пасядзіць уночы.

Соф’я

Я дзякую вам за білет,
Але за клопат двойчы.

З’яўляецца яшчэ дзе-хто. Тым часам Загарэцкі адыходзіць да мужчын.

Загарэцкі

Платон Міхайлыч...

Платон Міхайлавіч

Згінь!
Ідзі ты да жанчын, мані, тлумі мазгі:
Я праўду пра цябе перакажу такую,
Што горай за ману. Вось, брат *(да Чацкага)*, рэкамендую
Як гэтакіх людзей завуць пачціва ў твар,

Пяшчотна — чалавек ён свецкі,
Страшэнны прайдзісвет, махляр:
Антон Антоныч Загарэцкі.
Пры ім лепш памаўчы, як бачыш, перадасць,
І ў карты не сядай: прадасць!

Загарэцкі

Арыгінал! бурчыць, ды не са зла, а жартам.

Чацкі

Ды тут і крыўдзіцца не варта;
Апроч сумленнасці ўцех багата вам:
Аблаюць тут, падзякуюць вось там.

Платон Міхайлавіч

Ох, не! у нас усюды лаюць,
усюды-ж і прымаюць.

Загарэцкі губляецца ў натоўпе.

*З'ЯВА 10*

Тыя-ж і Хлёстава.

Хлёстава

Ці жарты, ў шэсцьдзесят пяць год,
Цягнуцца мне на вечарыну гэту!
Гадзіну ехала з Пакроўкі, ад варот,
А ноч — сканчэнне свету!
Я ад нуды ўзяла з сабой
Арапку-дзеўку ды сабачку;
Няхай накормяць іх — скажы, дружочак мой, —
З вячэры адашлюць падачку.
Княгіня, вам паклон! *(Села.)* Ну, Соф'юшка, мой друг,
Якая у мяне арапка для паслуг:
У кудзерах, з гарбатай спінай.
А злосная! і спрыт якраз каціны.

А чорная — бяда! А брыдкая—жуда!

От і стварыў-жа племя бог такое.

Праўдзівы д’ябал; вось наўда;

Гукнуць яе?

Соф’я

Другой парою.

Хлёстава

Ты чула, на паказ іх водзяць, як звяроў,

Забыла, дзесьці... горад ёсць турэцкі...

А ведаеш, хто мне знайшоў?

Антон Антоныч Загарэцкі.

Загарэцкі выстаўляецца наперад.

Махляр, карцёжнік, брахунец.

Загарэцкі знікае.

Хацела не пускаць яго далей сянец;

Ды майстар слугаваць: мне і сястры Праскоўі,

Дваіх арапчукоў на кірмашы дастаў;

Гаворыць, што купіў, мо’ ў карты змахляваў;

Мне-ж падаруначак, дай бог яму здароўя.

Чацкі *(рагочучы, Платону Міхайлавічу).*

Ад гэтакай хвалы прыбытак невялік!

І Загарэцкі сам не вытрымаў і знік.

Хлёстава

Хто гэты весялун? Са звання ён якога?

Соф’я

Вось гэты? Чацкі.

Хлёстава

Ну? Што-ж смешнага? нічога.

Чаго ён рад? Які тут смех?

Са старасці смяяцца грэх.

Я помню, дзіцем ты з ім часта танцавала,

За вушы я яго цягала, толькі мала.

*З'ЯВА 11*

Тыя-ж і Фамусаў.

Фамусаў *(вельмі голасна).*

Чакаем князя Пётра Ільіча,

А князь вось тут! а я сяджу там, у партрэтнай.

Дзе Скалазуб Сергей Сергеіч? а?

Здаецца, што няма. — Ён чалавек прыкметны,

Сергей Сергеіч Скалазуб.

Хлёстава

Мой божа! аглушыў мацней мядзяных труб.

*З'ЯВА 12*

Тыя-ж і Скалазуб, пасля Малчалін.

Фамусаў

Сергей Сергеіч! а! вітаем;

А мы чакаем вас, чакаем.

*(Падводзіць да Хлёставай.)*

Мая братовая, а ёй ужо ці раз

Гаворана пра вас.

Хлёстава *(седзячы).*

Вы тут раней былі... ў палку... тым... грэнадзёрскім?

Скалазуб *(басам).*

Яго высокасці, вы хочаце сказаць,

Нова-зямлянскім мушкацёрскім.

Хлёстава

Ну, не майстрыха я палкі распазнаваць.

Скалазуб

А форменныя ёсць адзнакі:

Пагончыкі, шмат выпушак усякіх.

Фамусаў

Ну, рушым, бацюхна, я вас там усмяшу;

Пацешны віст у нас. За намі, князь! прашу.

*(Яго і князя вядзе з сабою.)*

Хлёстава *(да Соф'і).*

Ух! быццам ад пятлі жыццё усцерагла я;

А усё шаленец — бацька твой:

Прывёў сюды ў тры сажні хараство,

Прыемна нам, ці не — знаёміць, не пытае.

Малчалін *(падае ёй карту).*

Я партыю злажыў для вас: мсьё Кок,

Фама Фаміч і я.

Хлёстава

А, дзякуй, галубок! *(Устае.)*

Малчалін

Ваш шпіц, ах, што за шпіц, я казытаў за вушкам;

З напарстак сам і у шоўкавым кажушку.

Хлёстава

А дзякуй, дарагі.

Выходзіць, за ёю Малчалін і шмат іншых.

*З'ЯВА 13*

Чацкі, Соф'я і некалькі староннiх, якія нл працягу сцэны разыходзяцца.

Чацкі

Ну, хмару адагнаў...

Соф'я

Ці нельга памаўчаць?

Чацкі

Чым вас я напужаў?

За тое, што суняў угневаную госцю,

Хацеў хваліць яго.

Соф'я

А скончылі-б вы злосцю.

Чацкі

Скажу, я думаў вось аб чым:

Народ сярдзіты ўсе бабулі,

Не дрэнна, каб пры іх стаяў прыслужнік чулы

І быў адводам грамавым.

Малчалін! — Хто да гэтай справы болей звычан!

Тут моську ў часе паказыча,

Там спрытна карты падбярэ,

Ў ім Загарэцкі не памрэ!..

Вы якасці яго падлічвалі заложна,

Ды шмат чаго забылі?—так? *(Выходзіць.)*

*З'ЯВА 14*

Соф'я, пасля пан N.

Соф'я (да сябе).

Ах, гэты чалавек няўзнак

Заўсёды страшна сэрца растрывожыць!

Закроены, горды, злы, кальнуць, прынізіць рад!

Пан N. *(падыходзіць).*

Аб чым вы думаеце ўпотай?

Соф'я

Аб Чацкім.

Пан N.

Як ён здаецца вам пасля звароту?

Соф'я

Крануўся з розуму.

Пан N.

Дык што, ён стаў вар'ят?

Соф'я *(памаўчаўшы).*

Я не скажу — зусім...

Пан N.

Аднак-жа ёсць прыкметы?

Соф’я *(глядзіць на яго ўважліва).*

Здаецца мне.

Пан N.

Няўжо ў гадах у гэтых!

Соф’я

Як быць? *(Убок.)*

Гатоў ён верыць!

А, Чацкі! Любіце усіх блазнамі рабіць,

Спрабуйце-ж на сябе памераць! *(Выходзіць.)*

*З’ЯВА 15*

Пан N. пасля пан D.

Пан N.

Крануўся з розуму!.. Здалося ёй, відаць,

Напэўна нездарма... адкуль-жа ёй узяць!

Ці чуў ты?

Пан D.

Што?

Пан N.

Аб Чацкім?

Пан D.

Што за чуткі?

Пан N.

Ён звар’яцеў!

Пан D.

Пагудка.

Пан N.

Не я кажу, ўсе кажуць, брат.

Пан D.

А ты разнесці рад?

Пан N.

Пайду, спытаюся, напэўна знае хтосьці. *(Выходзіць.)*

*З’ЯВА 16*

Пан D. пасля Загарэцкі.

Пан D.

Вер брахуну!

Пачуў лухту і зараз-жа разносіць!

Ты ведаеш аб Чацкім?

Загарэцкі

Ну?

Пан D.

Ён звар’яцеў!

Загарэцкі

А, помню, чуў я, братка.

Каб я не ведаў! гэткага выпадку!

Зрабіў яго вар’ятам дзядзька-чмут.

Схапілі, ў жоўты дом, і на ланцуг адразу.

Пан D.

Злітуйся, як-жа так? Ён зараз быў вось тут.

Загарэцкі

Сарваўся, слаба быў навязан.

Пан D.

З табою, дружа мой, не трэба мець газет.

Пайду я, пралячу па дому,

Ва ўсіх спытаюся; аднак, пакуль! сакрэт.

*З’ЯВА 17*

Загарэцкі, пасля графіня-ўнучка.

Загарэцкі

Каторы Чацкі тут? — Мне прозвішча вядома.

Я з Чацкім быў знаём, не ведаю ці з тым.

Вы чулі што аб ім?

Графіня-ўнучка

Аб кім?

Загарэцкі

Аб Чацкім, ён тут зараз быў.

Графіня-ўнучка

Я знаю.

Загарэцкі

Дык я вас прывітаю;

Ён звар’яцеў…

Графіня-ўнучка

Што? Што?

Загарэцкі

Так, так, зусім вар’ят.

Графіня-ўнучка

Заўважце, я, хоць біся аб заклад,

Прыкмеціла сама, мы з вамі ў адно слова.

*З’ЯВА 18*

Тыя ж і графіня-бабка.

Графіня-ўнучка

Ah! Grand maman, вось навіна! ды што вы

Яшчэ не чулі пра бяду?

Паслухайце. Вось любата! вось міла!..

Графіня-бабка

Мой друг, мне вушы залажыла.

Скажы мацней...

Графіня-ўнучка

Спяшаю, йду; *(Паказвае на Загарэцкага.)*

Il vous dira toute I'histoire.

Пайсці, спытаць. *(Выходзіць.)*

*З’ЯВА 19*

Загарэцкі, графіня-бабка.

Графіня-бабка

Што? што? Ці тут няма пажару?

Загарэцкі

Не, Чацкі нарабіў увесь перапалох.

Графіня-бабка

Як, Чацкага? ўзялі ў астрог?

Загарэцкі

Паранен быў у лоб і звар’яцеў ад раны.

Графіня-бабка

Што? Ў фармазонскі клоб? Падаўся ў бусурманы?

Загарэцкі

Ну, гэтай не ўдзяўбеш. *(Выходзіць.)*

Графіня-бабка

Антон Антоныч! Ах!

І ён бяжыць, усіх разгоніць страх.

*З’ЯВА 20*

Графіня-бабка і князь Тугаухаўскі.

Графіня-бабка

Князь, князь. Ох, ездзіць на балы, а ледзь цягае ногі.

Князь, чулі вы?

Князь

А-хм!

Графіня-бабка

Не чуе ён нічога.

Хоць, можа, бачылі, тут паліцмейстар быў?

Князь

Э-хм!

Графіня-бабка

А хто ў турму, князь, Чацкага схапіў?

Князь

І-хм?

Графіня-бабка

Цясак яму ды ранец,

У войска, жартачкі! Перамяніў закон!

Князь

У-хм!

Графіня-бабка

Ды ў бусурманах ён!

Ах! несусветны вальтэр’янец!

Што? а? глух, мой айцец; дастань ражок хутчэй.

Ох, глухата! няма бяды страшней.

*З’ЯВА 21*

Тыя ж і Хлёстава. Соф’я, Малчалін, Платон Міхайлавіч, Наталля Дзмітрыеўна, графіня-ўнучка, княгіня з дочкамі, Загарэцкі, Скалазуб, пасля Фамусаў і шмат іншых.

Хлёстава

Крануўся з розуму! глядзі ты!

Ды нечакана! ды як спрытна!

Ты, Соф’я чула ўжо?

Платон Міхайлавіч

Хто першы распусціў?

Наталля Дзмітрыеўна

Ах! любы, ўсе.

Платон Міхайлавіч

Ну, ўсе — дык вер насупраць волі,

А мне не верыцца.

Фамусаў *(уваходзячы).*

Аб чым? Аб Чацкім? Што там болей!
Чаго не верыцца? Я першы, я адкрыў.
Даўно дзіўлюся я, чаму яго не звяжуць!
Пра улады папрабуй — ён вам такое скажа!
А схіліцца ніжэй, сагнецца хто рачком,
Хоць нават прад самім царом,
Дык ён аблае падлюком!..

Хлёстава

Занадта ўжо смяшлівы:
Сказала штосьці я: пачаў ён рагатаць.

Малчалін

А мне адрайваў у Маскве служыць ў архівах.

Графіня-ўнучка

Мяне мадзісткаю меў ласку абазваць!

Наталля Дзмітрыеўна

А мужа ў вёсцы жыць падгаварыць хацеў ён.

Загарэцкі

Вар'ят, не йнакш.

Графіня-ўнучка

З вачэй відаць якоў.

Фамусаў

У маці ўдаўся ён, у Анну Алексеўну,
Нябожчыца сама шалела сем разоў.

Хлёстава

Бывае ў свеце шмат здарэнняў недарэчных!
Блазнюк, а з глузду скакануў!
Мо' піў не па гадах?

Княгіня

О! праўда...

Графіня-ўнучка

Так, бясспрэчна.

Хлёстава

Шампанскае ён кубкамі цягнуў.

Наталля Дзмітрыеўна

Не, бутлямі, ды вось такімі.

Загарэцкі *(горача).*

Не, бочкамі саракавымі.

Фамусаў

Ну вось! яшчэ бяду знайшлі.
Што вып’е лішняга мужчына!
Навука — вось чума, вучонасць — вось прычына,
Што зараз, болей чым калі,
Шалёных і людзей, і спраў, і меркаванняў.

Хлёстава

Дык можна звар’яцець ад гэтых, ад адных
Ад пансіёнаў, школ, ліцэяў, як там іх;
Ды ад ланкартачных усякіх навучанняў.

Княгіня

Не, ў Пецербургу інстытут
Пе-да-га-гічны ёсць. Вось небяспечны кут!
Там практыкуюцца ў бязвер’і, чмутах нейкіх
Прафесары!! У іх вучыўся сваячок,
І вышаў! хоць пашлі ў чаляднікі ў аптэку.
Жанчын цураецца, і ад мяне наўцёк.
Чыноў не прызнае! Ён хімік, ён батанік,
Князь Фёдар, мой плямянік.

Скалазуб

Я вас узрадую: навокала чуваць,
Што ёсць праект наконт ліцэяў, школ, гімназій,
Там будуць навучаць па-нашаму: раз, два;

А кніжкі так трымаць: выключна для аказій.

Фамусаў

Сергей Сергеіч, не! Калі ўжо зло адсеч,
Сабраць-бы кнігі ўсе, ды ў печ.

Загарэцкі *(лагодна).*

Не, нельга кніг раўняць. Вось быў-бы, паміж намі,
За цэнзара пастаўлен я,
На байкі б ціскануў; ох! Байкі – смерць мая!
Заўсёды кепікі над львамі! над арламі!
А як ні гавары,
Хоць і жывёлы, але ўсё ж цары.

Хлёстава

Айцы мае, хто ў розуме парушан,
Праз кніжкі ці пітво — усё адна бяда,
Мне Чацкага шкада.
І варт пашкадаваць, як хрышчаную душу,
Быў востры чалавек, меў душ ён соцень тры.

Фамусаў

Чатыры.

Хлёстава

Тры, васпан.

Фамусаў

Чатырыста.

Хлёстава

Не! трыста.

Фамусаў

Ды мой-жя каляндар...

Хлёстава

Хлусня — календары.

Фамусаў

Якраз чатырыста! Спрачайся з галасістай!

Хлёстава

Не! трыста! як чужых маёнткаў мне не знаць.

Фамусаў

Чатырыста, прашу мне веры даць.

Хлёстава

Не! трыста, трыста, трыста.

*З’ЯВА 22*

Тыя ж усе і Чацкі.

Наталля Дзмітрыеўна

Вось ён.

Графіня-унучка

Шш!

Усе

Шш! *(Адступаюцца ад яго ў процілеглы бок.)*

Хлёстава

Каб ён, вар’ят, пад хворы час
Хоць біцца не пачаў, а то як завядзецца.

Фамусаў

О, госпадзі! ратуй ты грэшных нас! *(Баязліва.)*
Шаноўны мой! Ты не ў сваёй талерцы.
З дарогі трэба сон. Дай пульс. Ты нездароў.

Чацкі

Так, мільён пакут: ні сілы ні спакою
Грудзям ад поціску сяброў,
Нагам ад шаркання, вушам ад гучных слоў,
А галаве найгорш ад балбатні пустое.

*(Падыходзіць да Соф’і.)*

Я між людзей гублюся, сам не свой,
Душа тут у мяне якімсьці горам сцята.

Не! нездаволен я Масквой.

Хлёстава

Масква, бач, вінавата.

Фамусаў

Далей ты ад яго! *(Робіць знакі Соф’і.)*
Гм, Соф’я! — Не глядзіць.

Соф’я *(Чацкаму).*

Што вас магло так угнявіць?

Чацкі

У тым пакоі дробная сустрэча:
Французік там з Бардо, пнучыся з усіх жыл,
Сабраў натоўп, нібыта веча,
І плёў, як ён збіраўся ў край чужы
Да рускіх варвараў, у страху, са слязамі;
Прыехаў, і сустрэў шмат ласкі, хараства;
Ні рускі гук пачуць, ні ўбачыць рускі твар,
Нічога: быццам на радзіме, з дружбакамі,
Свая правінцыя. Зірнеш, пад вечарок
Ён пачуваецца, як дробненькі царок;
Такія-ж дзейкі ў дам, убёры тога-ж складу...
Ён рад, а мы не рады.
Тут адусюль, як змоўкнуў ён,
Туга, і войканне, і стогн;
Ах! Францыя! Не знойдзеш лепей краю! —
Бясконца дзве сястры, князёўны, паўтараюць,
Як задзяўблі з дзіцячае пары.
Куды падзецца ад сястрыц!
Нясмела ўзносіў я жаданні,
Аднак чуваць было наўкруг,
Каб вынішчыў гасподзь нячысты гэты дух

Пустога, рабскага, сляпога пераймання;
Каб іскру кінуў ён хоць аднаму, з душой,
Хто мог-бы прыкладам і словам
Нас утрымаць, нібы за моцны повад,
Ад мутарнай тугі па старане чужой.
Няхай я старавер, — такая пойдзе мова, —
Мне горшай Поўнач наша стала ў дзвесце крат,
Калі змяніла ўсё на нейкі новы лад,
І мову, й звычаі, і даўніну святую,
І вопратку вялізную на тую,
Што толькі блазнаў апранаць:
Хвост ззаду, спераду дзівацкі нейкі выем,
Развазе насупроць, наўпоперак стыхіям;
І твар не прыгажэй, і рукі не падняць;
На смех абголены сівыя падбародкі!
Па ўбёрах, валасах і розум стаў кароткі...
Калі-ж народжаны усё мы пераймаць,
Хоць-бы ў кітайцаў нам крыху ў пазыку ўзяць
Няведання ніякіх чужаземцаў.
Ці зрынем-жа калі мы чужаўладства мод?
Каб ясны розумам, бадзёры наш народ,
Хоць-бы па мове нас не прылічаў да немцаў.
„Як еўрапейскае стаўляць у паралель
“З нацыянальным, дзіўна штосьці.
„Ну як пералажыць мадам і мадмуазель?
“Няўжо сударыня!!” — прамармытаў мне хтосьці...
І ўсе, ці можна уявіць,
З мяне адразу сталі кпіць.
«Сударыня! ха! ха! ха! вось дзіва!
“Сударыня! ха! ха! ха! жахліва!”

Я ўсердзіўся і кляў жыццё,

Я меў адказ ім перуновы;

Ды ўсе падаліся наўцёк, —

Вось выпадак са мною, ён не новы;

Масква і Пецербург, і ўсюды ўсё адно,

Што чалавечак з горада Бардо

Абы паспее рот разявіць,

Князёўны зразу-ж спагадаюць;

І ў Пецербургу і ў Маскве,

Хто вораг вымудраў, асоб незапрашаных,

Хто на няшчасце ў галаве

Жывыя думкі мае нечакана,

Ды іх у голас абвяшчаць пачне,

Зірне...

Азіраецца, усе ў вальсе круцяцца з найвялікшай стараннасцю. Старыя параспаўзаліся да картачных сталоў.

*Канец трэцяй дзеі.*

## ДЗЕЯ ЧАЦВЕРТАЯ

У Фамусава ў доме парадныя сенцы, вялікія сходы з другога жытла, да якіх прылучаецца шмат пабочных сходаў з антрэсоляў; унізе з правага боку (ад дзейных асоб) і выхад на ганак і швейцарская ложа; з левага боку на адны жа плане пакой Малчаліна. Ноч.

Слабое асвятленне. Лакеі адны мітусяцца, а іншыя спяць, чакаючы паноў сваіх.

### *З’ЯВА 1*

Графіня-бабка, графіня-ўнучка, наперадзе іх лакей.

Лакей

Графіні Хрумінай карэта.

Графіня-ўнучка *(пакуль яе ўхутваюць).*

Ну, бал! Ну, Фамусаў! умеў гасцей прасіць!

Якіясьці пачвары з таго свету,

Ні слова праказаць, ні ў танцы з кім схадзіць.

Графіня-бабка

Паедзем, матухна, ў мяне не тая сіла,

Як-небудзь я ўжо з балу ды ў магілу.

Абедзве ад’язджаюць.

### *З’ЯВА 2*

Платон Міхайлавіч і Наталля Дзмітрыеўна, адзін лакей каля іх завіхаецца, другі ад пад’езду крычыць.

Карэта Горыча.

Наталля Дзмітрыеўна

Анёл, уцеха, ты мая,

Папош мой, сэрцайка, чаго? не засмучайся.

*(Цалуе мужа ў лоб.)*

У Фамусавых бал вясёлы быў, прызнайся?

Платон Міхайлавіч

Наташа, на балах драмлю заўсёды я,

Да іх страшэны неахвотнік,

А не пярэчу, твой работнік,

Дзяжуру поначы, маўчу;

Каб дагадзіць табе, хоць сумна,
А пад каманду й сам скачу.

Наталля Дзмітрыеўна

Прыкідваешся ты, і вельмі неразумна;
Што, захацелася дзядком лічыцца, так?

*(Адыходзіць з лакеем.)*

Платон Міхайлавіч *(без узрушэння)*.

Балы рэч добрая, але прымус не ў смак;
Хто ж нас жаніцца прыганяе!
А сказана ж, што іншым на раду…

Лакей *(з ганку)*.

А пані ужо сядзяць, злуюцца, вас чакаюць.

Платон Міхайлавіч *(уздыхаючы)*.

Ілу, іду. *(Ад’язджае.)*

*З’ЯВА 3*

Чацкі і лакей яго паперадзе.

Чацкі

Крычы, каб хутка коней падавалі.

Лакей выходзіць.

Ну вось і дзень мінуе, а з ім
І здані ўсе, і чад, і дым
Надзей, што сэрца мне так доўга хвалявалі:
Чаго чакаў? што тут хацеў знайсці?
Дзе асалода стрэч? у кім спагады зерне?
Абдымкі! радасць! крыкі Мізэрна;
Вось так жа, як саньмі ляціш,
І сумна, едучы бясконца па даліне,
Здалёку штосьці ўсё мігціць,
Здаецца светлым, дзіўным, сінім.
Гадзіну едзеш, дзень, час коні прыпыняць,

Ну вось ужо начлег. А як зірнеш наўкола:

Такі ж раўнюткі стэп, пустэча, цішыня,

І крыўдна, не стрываць, калі разважыш болей.

Лакей варочаецца.

Гатова?

Лакей

Фурмана не могуць адшукаць.

Чацкі

Ідзі, шукай! Няўжо тут начаваць.

Лакей ізноў выходзіць.

*З’ЯВА 4*

Чацкі, Рэпецілаў.

(убягае з ганку, пры самым уваходзе падае з усіх ног і спяшаючыся парадкуецца)

Рэпецілаў

Цьфу! схібіў як. – Ах, мой ты божа!

Дай вочы я пратру, адкуль ты? быць не можа!..

Сардэчны друг! шаноўны друг! Mon cher!

Вось часта фарсы змушан чуць я,

Што забабоншчык я, нікчэмны пусташэпт,

Што маю да ўсяго прыкметы і прадчуцці,

Цяпер жа… як да ладу ўзяць,

Нібыта знаў, куды спяшаць,

На ж, зачапіўся за парожак

І грымнуўся на ўсю пастаць.

Няхай, ты пасмяяцца можаш,

Што дурнаваты я, што я люблю салгаць,

Я маю да цябе прыхільнасць, быццам хворасць,

Любоў дзівацкую і страсць,

Гатоў душу ў заклад аддаць,

Што сябра лепшага, дзе хочаш, хоць за морам,

Дальбог, не знойдзеш ты пэўней,

Хай страчу жонку і дзяцей,

Няхай пакінут буду светам,

Хай кончуся на месцы гэтым,

Няхай паб’е мяне гасподзь…

Чацкі

Ды кінь лухту малоць.

Рэпецілаў

Не любіш ты мяне, ды гэта зразумела:

Я з імі іншымі яшчэ так-сяк,

З табой праводжуся нясмела,

Я смешны, я дурны, я невук, я дзівак,

Чацкі

Вось дзіўнае самаўніжэнне!

Рэпецілаў

Лай, лай мяне, я сам кляну дзень нараджэння

Калі падумаю, як час прамарнаваў!

Скажы, ці позні час?

Чацкі

Пара збірацца ў ложак;

Калі сюды на бал спяшаў,

Тады вярнуцца можаш.

Рэпецілаў

Ды што той бал? Браток, закуты да відна

Прыстойнасцю мы там, не вылужамся з іга,

Чытаў ты? ёсць жа кніга…

Чацкі

А ты чытаў? Хацеў бы гэта знаць,

Ці Рэпецілаў ты?

Рэпецілаў

Кліч, кліч мяне вандалам,
Імя я гэта заслужыў,
Людзьмі пустымі даражыў!
Сам трызніў цэлы век вячэраю ці балам!
Ашукваў жонку! дзеці забываў!
Гуляў! прагульваўся! апекаван указам!
Танцорачку, ды ці адну трымаў:
Тры зразу!
Піў мёртвую! не спаў начэй па пяць,
Ўсё абвяргаў: закон! сумленне! веру!

Чацкі

Чакай, мані, ды ведай меру;
Тут ёсць праз што тугі зазнаць.

Рэпецілаў

Віншуй мяне, цяпер з людзьмі ваджуся
З разумнымі... — ўсю ноч бадзяцца не ахвоч.

Чацкі

Як зараз прыкладам?

Рэпецілаў

Хто ж лічыць адну ноч,
Але спытай, дзе быў?

Чацкі

Я здагадаўся, мусіць,
У клубе?

Рэпецілаў

Англійскім. Каб споведзь мне пачаць:
Я з пасяджэння, тлум народу.
Будзь ласкаў, памаўчы, я абяцаў маўчаць,
У нас – таварыства і патайныя сходы
Што чацвярга. Сакрэтнейшы саюз.

Чацкі

Ах! страшна, не таю.
Што? ў клубе?

Рэпецілаў

Акурат.

Чацкі

Не трэба лішне клапаціцца,
Каб даць у карак вам і вашым таямніцам.

Рэпецілаў

Дарма баішся, брат,
Мы у голас крычымо, каму там разабраць.
Я сам, як схопяцца аб камерах, прысяжных.
Аб Байране, аб розных справах важных,
Часамі слухаю, а губы – на замок;
Не на мае мазгі, не уцяміць мне браток.
Ах, Alexandre! Цябе ў нас толькі не ставала;
Паслухай, любенькі, усцеш мяне хоць мала;
Паедзем зараз, балазе мы на ходу;
А да якіх я завяду
Людзей!!! Там да мяне падобнага не ўбачыш,
Вось дык яны, mon cher! Цвет розумаў юначых!

Чацкі

Бог з імі і з табой. Куды цяпер імчаць?
Чаго? у цёмначы? Дамоў я еду, спаць.

Рэпецілаў

Э! кінь! хто зараз спіць? Ну, досыць, без прэлюдзій,
Адважся ты, а мы... адважныя ўсе людзі,
Гарачых тузін малайцоў.
Крычым — падумаеш, што сотні галасоў...

Чацкі

Але чаго шалееце вы столькі?

Рэпецілаў

Шумім, браток, шумім.

Чацкі

Шуміце вы? і толькі?

Рэпецілаў

Як растлумачваць тут: не месца дый не час,
Гаворка аб дзяржаўнай справе,
Яна не выспела на яве,
Ці льга ж з пляча?
А людзі вось! mon cher! без доўгіх я гісторый
Скажу табе: перш-на-перш князь Грыгорый!!
Дзівак выключнейшы! са смеху нас кладзе!
Век з англічанамі, падобен — кропка ў кропку,
Праз зубы так-жа гутарку вядзе,
І гак-жа валасы абстрыжаны каротка.
Не знаеш ты? О! пазнаёмся з ім.
Другі — Варкулаў Еўдакім,
Це чуў, як ён пяе? О! Дзіва!
Паслухай, любы, асабліва
Ён мае улюбёнае адно:
“А нон лаш’ярмі, но, но, но".
Яшчэ у нас браты ёсць:
Левон і Барынька, вось хлопцы залатыя.
Пра іх не знаеш, што сказаць;
А калі генія дасце загад назваць:
Удуш’еў Іпаліт Маркелыч!!!
Яго ты творы сустракаў,
Кавалачак, калі не цэлы?
Зірні, браток, ды ён не піша ні радка;

У розгі-б гэткіх ягамосцяў,

Хвастаць і прымаўляць: пісаць, пісаць, пісаць;

Але ў часопісах ты можаш адшукаць

Урывачак, пагляд і штосьці.

Аб чым-жа штосьці? — аб усім;

Ўсё ведае, яго на чорны дзень шчадзім.

А галава у нас, няма ў Расіі гэткай,

Нашто казаць імя, пазнаеш і і партрэту:

Начны разбойнік, дуэлянт,

У Камчатку выслан быў, вярнуўся алеутам,

Махляр — не бачыла зямля;

Ды той, хто з розумам, не можа быць не чмутам.

А аб сумленнасці як стане гаварыць,

Нібыта чорт яго натхняе;

Кроў на вачах, твар аж гарыць,

Сам плача, і мы ўсе рыдаем.

Вось людзі, ёсць да іх падобныя? Наўрад,

Я паміж іх мізэрнасць толькі, брат,

Крыху адстаў, ляны, аж гаварыць баюся!

Калі ж, аднак, я глуздам паднапнуся,

Засяду, дык гадзіны не сяджу

І раптам каламбур выпадкам нараджу.

А іншыя ў мяне падхопяць думку тую,

Глядзі, ў шасцёх і вадэвіль змайструюць,

Шасцёра іншых музыку складзе,

Шасцёра ж пляскае, калі спектакль ідзе.

Брат, смейся, а што люба, люба:

Бог здольнасці не даў, хваліцца не магу,

За сэрца ж добрае я ўсім людзям пад густ,

Зманю – дарма.

Лакей *(з пад’езда).*

Карэта Скалазуба.

Рэпецілаў

Як?

*З’ЯВА 5*

Тыя ж і Скалазуб *(сыходзіць па сходах).*

Рэпецілаў *(да яго насустрач)*

Ах! Скалазуб, душа мая,

Чакай; куды? зрабі мне ласку.

*(Цісне яго ў абдымках.)*

Чацкі

Куды падзецца мне ад іх?

*(Уваходзіць у швейцарскую.)*

Рэпецілаў *(да Скалазуба).*

Тут пра цябе і гоман сціх,

Казалі, што ты ў полк пайшоў па абавязку,

Знаёмы вы? *(Шукае Чацкага вачыма.)*

Упарты! паімчаў!

Хай гэтак, я цябе выпадкам адшукаў,

І папрашу са мной! ніякіх адгаворак:

У князь-Грыгорыя цяпер народу шмат,

Нас чалавек пабачыш сорак,

Ух, колькі розуму там, брат!

Праз ноч саймуюць, не дакучыць;

Перш-на-перш у шампанскім падплывеш,

А па-другое, гэткаму навучаць,

Што нам да скону не прыдумаць лепш.

Скалазуб

Пазбаў. Вучонасцю мяне не замарочыш,

Склікай другіх, а калі хочаш,

Я князь-Грыгорыю і вам
Фельдфебеля ў Вальтэры дам,
Ён вас у шэрагі зраўнуе,
А піснеце, дык зразу утаймуе.

Рэпецілаў

Ты ўсё са службаю! Mon cher, глядзі сюды:
І я ў чыны б палез, але няўдачы стрэлі,
Ніхто нідзе не меў такой бяды,
У стацкай я служыў, тады
Барон фон-Клоц быць за міністра цэліў,
Я-ж праг
Быць у зяцях.
Ішоў на прост, без доўгай думы,
І з жонкаю, і з ім у рэверсі гуляў,
Яму і ёй такія сумы,
Хавай нас божа, паспускаў!
Ён на Фантанцы жыў, я поруч дом паставіў,
З калонамі! вялізны! грошы ўправіў!
І вось павёў на шлюб адну з яго дачок,
Пасагу — дулю ўзяў, па службе – ні на крок.
Цесць немец, а што клёку? -
Баяўся, бачыш, ён папрокаў
За патуранне да радні.
Баяўся, а як мне? у крук яго сагні.
Сакратары яго хамулы, зразу купіш,
Пісцы, хапугі, зброд няздар,
А ўсе ў чынах, і не прыступіш,
Зірні у адрас-каляндар.
Цьфу! служба і чыны, крыжы — душы мытарствы,
Лахмоццеў Алексей цудоўна гаварыў,

Што радыкальныя патрэбны тут лякарствы,

Не можа шлунак больш варыць. *(Спыняецца, убачыўшы, што Загарэцкі заступіў месца Скалазуба, які тым часам паехаў.)*

*З'ЯВА 6*

Рэпецілаў, Загарэцкі.

Загарэцкі

Кажыце далей, я, вам шчыра прызнаюся,

Страшэнны ліберал! як вы, ну ў акурат,

І ад таго, што смел і ў вочы гавару ўсё,

Я вельмі-вельмі страціў шмат!

Рэпецілаў *(дакучліва).*

Усе наўцёк, не кажучы нічога,

Вось толькі збег адзін, ужо няма й другога.

Быў Чацкі, Скалазуб, дзе ж дзеліся яны?

Загарэцкі

А як на вашу думку Чацкі?

Рэпецілаў

Не дурны,

Мы з ім спаткаліся; па слоўцу, часта-густа,

Гаворка ёмкая зайшла пра вадэвіль.

Так! вадэвіль ёсць рэч, а рэшта гэта гіль.

Мы з ім... у нас... аднолькавыя густы.

Загарэцкі

А вы прыкмецілі, аднак:

Крануўся з розуму бядак.

Рэпецілаў

Што за лухта!

Загарэцкі

Усе далі ўжо веры.

Рэпецілаў

Мана.

Загарэцкі

Спытайце ўсіх.

Рэпецілаў

Хімеры.

Загарэцкі

А вось ідзе князь Пётр Ільіч,
Княгіня і князёўны.

Рэпецілаў

Дзіч.

*З’ЯВА 7*

Рэпецілаў, Загарэцкі, князь і княгіня з шасцю дачкамі, крыху пачакаўшы Хлёстава ідзе ўніз па парадных сходах; Малчалін трымае яе пад руку. Лакеі ў мітусні.

Загарэцкі

Ккязёўны, можна ў вас аб Чацкім запытацца.
Вар’ят ён? як лічыць?

1-я князёўна

Ці трэба ў гэтым сумнявацца?

2-я князёўна

Пра гэта цэлы свет крычыць.

3-я князёўна

Дранскія, Хворавы, Варлянскія, Скачковы.

4-я князёўна

Ах! весткі чутыя, навін свяжэй няма?

5-я князёўна

Хто сумняваецца?

Загарэцкі

Не верыць ён...

6-я князёўна *(Рэпецілаву).*

Дарма!

Разам усе

Мсьё Рэпецілаў! Вы! Мсьё Рэпецілаў! што вы?
Ды як-жа вы! Супроць усіх адзін!
Чаму-ж вы? Сорамна наўздзіў.

Рэпецілаў *(затыкае сабе вушы).*

Даруйце, не чакаў, што гэта ўсім вядома.

Княгіня

З ім страшна гаварыць, дык дзіва што йдзе гоман,
Даўно-б ужо замкнуць пара,
Паслухаць, дык яго мезінец
Здальней усіх, і нават князь-Петра!
Здаецца мне, ён проста якабінец,
Ваш, Чацкі!!! Едзьма. Князь, вязі з сабой адну –
Каціш, або Зізі, нам у карэце цесна.

Хлёстава *(са сходаў).*

Княгіня, доўг напамяну.

Княгіня

Спагоніш, матухна.

Усе *(адно да аднаго).*

Бывайце.

Княжая фамілія ад’язджае і Загарэцкі таксама.

*З’ЯВА 8*

Рэпецілаў, Хлёстава, Малчалін.

Рэпецілаў

Цар нябесны!
Анфіса Нілаўна! Ах! Чацкі! падупаў!
Што ясны розум наш! і безліч розных спраў!
Скажыце, і нашто мы ў свеце клопат маем!

Хлёстава

Ну, бог так даў; ды пачакаем,

А можа, вылечаць такі;

А ты, мой бацюхна, навекі хвор, хоць кінь.

Знайшоў пару, калі з’яўляцца! –

Малчалін, вунь закутак твой,

Не трэба провадаў, ідзі, гасподзь з табой.

Малчалін адыходзіць да сябе ў пакой.

Бывайце, бацюхна, ўжо час адвар’явацца.

*(Ад’язджае.)*

*З’ЯВА 9*

Рэпецілаў з сваім лакеем.

Рэпецілаў

Куды скіруем палазы?

А справа блізка да світання.

Ідзі, карэту падавай мне. *(Ад’язджае.)*

*З’ЯВА 10*

Апошняя лампа гасне.

Чацкі *(выходзіць з швейцарскае).*

Што гэта? сапраўды, ці можа мае здалося?

Не смех, а проста злосць. Тут нейкія дзівосы,

Нібы начараваў вядзьмар,

Што глупстаа пра мяне ўсе ў голас паўтараюць.

Адным — як быццам свята лепш няма,

Другія — нібы спачуваюць!..

Як зразумець людзей такіх:

Што горш у іх? душа ці языкі?

Хто гэта выдумляе?

Дурны паверыў, расказаў другім дурным,

Бабулі звоняць у званы,

І вось грамадскі погляд, маеш!

Дык вось — радзіма... Не, на гэты раз,

Яна мне спрыкрыць за кароткі час.
А Соф’я ведае? — Сказалі ўжо вядома.
Яна, напэўна, не на злосць, не ў шкоду мне
Пацешылася, і — ці так, ці не –
Усёроўна ёй ці я, ці хто другі знаёмы,
Ёй, шчыра кажучы, няма тут дарагіх.
Тады, чаго-ж бы млець, трывожыцца надмерна? —
Пустая прыхамаць, раздураныя нервы,
Крыху узрушыць іх, крыху суцішыць іх;
Дарэмна гэта я за страсці палічыў, —
Яна магла-б прытомнасць таж-жа страціць,
Калі б хто-небудзь наступіў
На хвост кату або шчаняці.

Соф’я *(над сходамі на другім паверсеса свечкаю).*

Малчалін, вы? *(Хутка ізноў дзверы прычыняе.)*

Чацкі

Яна! сама яна!
Ах! галава гарыць, кроў б’ецца ў хваляванні.
З’явілася! няма! няўжо мільгнула зданне?
Няўжо я звар’яцеў аднак?
На незвычайнае трапляць я маю ўдачу,
Але не зданне тут, спаткання час прызначан,
Нашто маніць сабе, гуляць з самім сабой?
Малчалін трэба ёй, а вось яго пакой.

Лакей яго *(з ганку).*

Карэ…

Чацкі

Сс! *(Выпіхае яго прэч.)*
Буду тут, і не прымружу вока,
Хоць да відна. Адразу лепей піць

Пакуты блёкат,

Чым пакрысе. Бяды адкладам не пазбыць.

Вось дзверы рыпаюць. *(Хаваецца за калону.)*

*З’ЯВА 11*

Чацкі схаваны; Ліза са свечкаю.

Ліза

Ах! страшна! проста млею:

У сенцы! поначы! а раптам дамавік,

Яшчэ страшней людзей жывых.

Пакута мне з паненкаю, бог з ею.

Бяльмом на воку Чацкі стаў,

Здалося, што ў сянях ён зараз пахаджаў.

*(Азіраецца.)*

Так! дзіва што? не меў другой гадзіны.

Даўно ўжо мусіць за парог,

Каханне на пасля пакінуў

Дамоў, ды ў свой бярлог.

Аднак загадана да любага паткнуцца.

*(Стукае да Малчаліна).*

Паслухайце, ці не пара прачнуцца?

Адно хутчэй, каб хто не ўбег.

Паненка кліча вас, паненка вас гукае.

*З’ЯВА 12*

Чацкі за калонаю, Ліза, Малчалін (пацягваецца і пазяхае), Соф’я (крадзецца зверху).

Ліза

Вы, пане, лёд, вы, пане, камень.

Малчалін

Ах! Лізанька, ты ад сябе?

Ліза

Ды ад паненкі я.

Малчалін

Хто-б угадаў,
Што ў гэтых шчочках, гэтых жылках
Яшчэ агонь кахання не іграў!
Ці варта быць табе ўсяго што на пасылках?

Ліза

А вам, шукальнікам нявест,
Паменш качацца-б у пасцелі;
Прыгож і люб, хто не даесць
І не даспіць перад вяселлем.

Малчалін

Вяселле? што ты? з кім?

Ліза

З паненкаю.

Малчалін

Ды дзе!
Яшчэ багата ёсць надзей,
Час без вяселля правалочым.

Ліза

Ды што вы, пане! Мы каго-ж
Сабе ў мужы другога хочам?

Малчалін

Не ведаю. Мяне дык аж праймае дрож,
Ад думкі нават калачуся,
Што Павел Афанас'іч нас
Заловіць пад нядобры час,
Разгоніць, пракляне! Прызнацця трэба мусіць?
Пра Соф'ю Паўлаўну: ну, чым яна кране,

Што ў ёй зайздроснага? Дай бог пражыць ёй добра,
Быў Чацкі колісь да спадобы,
Забудзе гэтак і мяне.
Анёлак мой, хаця-б мне палавіну
Пачуццяў да яе, што маю да цябе;
Дык не, як ні кажу сабе,
Хачу пяшчотным быць, а убачу і астыну.

Соф'я *(убок).*

Якія гідасці.

Чацкі *(за калонай).*

Брыда!

Ліза

І вам не сорамна?

Малчалін

Мне бацька загадаў:
Перш-на-перш дагаджаць усім без выключэння;
Гаспадару, дзе давядзецца жыць,
Начальніку, з кім буду я служыць,
Слузе яго, што падае адзенне,
Швейцару, дворніку, і каб бяды не знаць,
Сабаку дворніка, каб не пачаў брахаць.

Ліза

Папраўдзе, пане, ў вас вялікая апека!

Малчалін

Каханка выгляд змушан я рабіць,
Каб дагадзіць лачцы такога чалавека...

Ліза

Таго, хто даў вам есці, піць,
Ды можа й чынам надзяліць?
Ідзем хутчэй, даволі саймавалі.

Малчалін

Хадзем дзяліць каханне нуднай нашай кралі,

Давай па шчырасці цябе я абдыму.

*(Ліза не даецца.)*

Чаму яна не ты, чаму?

*(Хоча ісці, Соф'я не пускае.)*

Соф'я *(бадай шэптам; уся сцэна напоўголаса).*

Не рушцеся далай, я выслухала многа,

Жахлівы чалавек! Дзець вочы мне куды?

Малчалін

Як! Соф'я Паўлаўна...

Соф'я

Ні гуку, імем бога,

Маўчыце, каб не мець бяды.

Малчалін *(кідаецца на калені, Соф'я адпіхае яго)*

Успомніце! не гневайцеся! гляньце!

Соф'я

Забылася на ўсё, не назаляйце больш

І успаміны мне цяпер, як востры нож.

Малчалін *(поўзае ў яе нагах).*

Злітуйцеся...

Соф'я

Не подлічайце, ўстаньце.

Адказу не хачу, адказ вядомы мне,

Вы зманіце…

Малчалін

Зрабіце ласку...

Соф'я

Не. Не. Не.

Малчалін

Я жартаваў, і не скачаў нічога…

Соф’я

Пакіньце, зараз нараблю
Я крыку, падыму трывогу
І абаіх нас загублю.

Малчалін устае.

Я з гэтае пары вас быццам-бы не знала.
Папрокаў, скаргаў, слёз маіх
Не важцеся чакаць, бо вы не варты іх,
Але каб вас тут сонца не застала,
Каб я нідзе вас больш не сустракала.

Малчалін

Як загадаеце.

Соф’я

Іначай раскажу
З гаркоты бацюхну ўсю праўду,
Вядома-ж вам, што я сабой не даражу.
Ідзіце. — Стойце, будзьце рады,
Што маючы са мной спатканні ў позні час,
Вы шмат цішэй трымаліся сам-на-сам,
Як пры людзях, у ранні ясным;
Куды менш дзёрзкасці, чым крывадушша ў вас.
Сама здаволена, што ўночы зразумела,
Пра ўсе дазналася без сведак на вачах,
Як раніцай, калі я абамлела,
Тут Чацкі быў...

Чацкі *(кідаецца паміж іх).*

Ён тут, падманшчыца!

Ліза і Соф’я

Ах! Ах!

Ліза свечку кідае з перапалоху; Малчалін хаваецца да сябе ў пакой.

*З’ЯВА 13*

Тыя-ж апрача Малчаліна.

Чацкі

Хутчэй самлейце, зараз да выпадку,
Прынамсі ёсць хаця прычына паважней,
Нарэшце вось развязана загадка!
Вось на каго змянілі вы мяне!
Не ведаю, як гнеў я мог стрымаць!
Хоць бачыў, думаў, маняць вочы.
А любы, для каго маглі вы занядбаць
І друга даўняга, і сорам свой жаночы;
Каб не трымаць адказ, хутчэй за дзверы ходу.
Мы — цацкі ў лёсавых руках,
Ён для людзей з душой заўсёдны кат! —
Малчаліным жыццё і асалода!

Соф’я *(уся ў слязах).*

Не гаварыце больш, я вінна скрозь адна,
Што гэткі нізкі ён, я не магла прадбачыць.

Ліза

Ах! божа мой! сюды бягуць! шум, гамана!
Ваш бацюхна па-свойму нас аддзячыць.

*З’ЯВА 14*

Чацкі, Соф’я, Ліза, Фамусаў, натоўп слуг са свечкамі.

Фамусаў

Сюды! сюды! хутчэй! за мной!
Больш ліхтароў, зрабіць відно.
Дзе-ж чэрці? Га! Ды тут знаёмыя ўсё людзі.
Дачка! яшчэ вось сорам будзе.
Брыдотніца! дзе! з кім! У маці ўся пайшла,

Нябожчыца якраз вось гэткая была.

Бывала я ад любай палавіны

Ледзь адышоўся: ёсць! яна ужо з мужчынам!

Пабойся бога, як? чым ён цябе зманіў?

Сама яго вар’ятам абзывала.

Не! дурасць на мяне і слепата напала!

Дык гэта-ж змова ўсё і ў змове гэтай быў

Ём сам і госці ўсе. Вось кара мне на душу...

Чацкі *(Соф’і).*

Дык вам за выдумку падзякаваць я мушу?

Фамусаў

Як ні круці, не падманеш, браток,

Хоць біцеся, я не паверу.

Ты, Філька, проста абібок,

Зрабіў швейцарам я санлівую цяцеру.

Калі ты ўбачыў што, калі ты што пачуў?

Дзе быў, куды насіла?

Сянец чаму ты не замкнуў?

Ці ты начэй не меў? ці вушы залажыла?

На працу-б вас, на высылку загнаць:

За грош прадаць мяне гатовы.

Ты, вірлавокая, твая крутня адна;

Вось ён, Кузнецкі мост, убёры ды абновы;

Там навучылася каханкаў паркаваць,

Цябе я выпраўлю, напраўду:

У хлеў пастаўлю, гусі даглядаць,

Ды і табе, дачушка, знойдзем раду;

Яшчэ перацярпі дзён два:

Не ўбачыш больш людзей, кажы: бывай, Масква;

Далей ад гэтых супастатаў,

У вёску, ў глуш, да цёткі, у Саратаў!
Там будзеш гора гараваць,
Над вышыўкай сядзець, пры святцах пазяхаць.
А вас, панок, прашу я толкам,
Туды не заязджаць ні трактам, пі прасёлкам;
І гэта ўжо мяжа для вашых ног,
Бо, мусібыць, ніхто не пусціць на парог:
Я завінуся, я, ў званы к прыудару,
Па цэлым горадзе зраблю такі заход,
Агалашу на увесь народ:
Ў Сенат ладам, міністрам, гасудару.

Чацкі *(пасля некаторага маўчання).*

Не цямлю я... прасіў бы дараваць,
Хоць слухаю, ладу не дабіраю,
Нібы яшчэ мне тлумачэнне хочуць даць,
У думках зблытаўся... і нечага чакаю *(Горача.)*
Сляпы! Узнагарод у кім шукаць было!
Спяшаў! ляцеў! дрыжаў! вось шчасце, думаў, блізка.
І перад кім я тут так страсна і так нізка
Растрачваў безліч палкіх слоў!
А вы! о божа мой! каго сабе абралі?
Каму, разважце, перавагу аддалі!
Нашто мяне надзеяю звялі?
Чаму мне проста не сказалі,
Што ўсе мінулае вы маеце за жарт?!
Што вам і успомніць нават дзіўна
Рух нашых сэрцаў, тых пачуццяў жар,
Што у мяне ні даль не астудзіла,
Ні змена месцаў, ні забавы час,
Я дыхаў гэтым, жыў, меў клопат безупынна!

Сказалі б вы, што прыкры мой прыезд для вас,
Мой выгляд, словы ўсе і кожны мой учынак, —
Я зразу-б адышоў ад вас навек
І перад тым, як назаўжды расстацца,
Не надта прагнуў-бы дазнацца,
Хто гэты ваш абраны чалавек?
*(Кпліва.)*
Варт памірыцца з ім, паразважайце слушна.
Сябе сушыць, з якой наўды!
Падумайце, яго вы можаце заўжды
Люляць і спавіваць, і мець на пабягушках.
Муж-служка, муж-хлапчук, з тых жончыных пажоў,
Што лічацца ў Маскве за ідэал мужоў. —
Даволі!.. горды я, што з вамі парываю.
А вы, пан-бацька, вы, што сквапны на чыны,
Я сватаннем сваім вам больш не паі ражак),
Драмліце-ж і далей, не ведаўшы маны.
Прыб’ецца іншы, памяркоўны,
Нізкапаклоннік і спрытняк,
Што з вартасці, з усіх адзнак,
Нарэшце цесцю будзе роўны.
Я працвярозіўся! Дарма.
Заслона прэч з вачэй, лятункаў больш няма.
Цяпер было-б не кепска, зразу,
І на дачках, і на бацьках,
І на каханках-маўчунах,
На свеце ўсім спагнаць гаркоту і абразу.
З кім быў! Куды мяне закінуў лёс ізноў!
Клянуць усе! цкуюць! тут катаў злых натоўп!
У каханні здрадлівых, у злоснасці нязломных,

Апавядальнікаў нястомных,

Плыткіх разумнікаў, падступных прасцякоў,

Бабуль злавесных і дзядкоў,

Што парахнеюць з плёткамі, лухтою.

Вар’ятам вы мяне празвалі чарадою.

Вы праўду кажаце: не згіне і ў агні,

Хто з намі дзень хоць застанецца,

Паветрам дышучы адным,

І ад вар’яцтва ўсцеражэцца.

Хутчэй з Масквы! сюды ўжо больш я не яздок.

Бягу, без возірку, пайду шырокім светам

Шукаць пачуццям скрыўджаным куток! —

Карэту мне, карэту! *(Выязджае.)*

### *З’ЯВА 15*

Апрача Чацкага.

Фа м уе «ў

Ну як? Ці не відаць, што ён вар’ятам стаў?

Скажы сур'ёзна:

Шалёны! што ён за лухту пераліваў!

Нізкапаклоннік! цесць! і пра Маскву так грозна!

А ты дабіць наважыла мяне?

Хіба-ж мой лёс і так не безнадзейны?

Ах! Божа мой! што гаварыць пачне

Княгіня Мар’я Алексеўна!

*Канец.*